PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (1981) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 1 МАЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Вялікае нам сёння Свята
Прыносіць на зямлю Хрыстос.
За нас Ён на крыжы распяты,
Уваскрос,
Уваскрос.

Зрабіў ён смерці разбурэнне,
Узнёсся ў славе да Нябёс.
Ён, каб усім нам даць збаўленне,
Уваскрос,
Уваскрос.

За род людскі памёр бясспрэчна,
Пакут нямала перанёс.
Ён, каб тут з намі жыць навечна,
Уваскрос,
Уваскрос.

Дык людцы верныя, лікуйце!
Ад Бога наш залежны лёс.
Вялікдзень весела святкуйце,
Хрыстос Уваскрос!
Хрыстос Уваскрос!

**ВІКТАР ШВЕД**

*Спакойнага і радаснага Велікоднага святкавання ўсім чытачам жадае рэдакцыя „Нівы”.*



## ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

**Яго Высокапраасвяшчэнства Савы, Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага**

**Багалюбным пастырам,
Глыбокашаноўнаму манаству
і Усім верным Дзецям
Беластоцка-Гданьскай епархіі**

**Хрыстос Уваскрэс!**

„Прыйдзіце, Усе верныя, паклонімся Святому Хрыстоваму Уваскрэсенню!”

Іісус Хрыстос уваскрэс на радасць сваім вучням і ўсяму свету. Ён уваскрэс, нягледзячы на злосць ворагаў, якія ўжо святкавалі над Ім перамогу, нягледзячы на цемру ночы, што ахінула Яго магілу. Смерць не ўтрымала ў сваіх цісках Начальніка жыцця; пекла сустрэла ў Ім свайго Разбуральніка.

Ён уваскрэс — і, як гіне цемра ад праменняў свяціла, як уцякае начная сцюжа ад цяпла сонечнага, так знікае ад весткі пра Уваскрэсенне ўсялякі смутак і ўсялякі страх; Ён уваскрэс і гэтым усяліў на свеце такую радасць, бадзёрасць, веру і жыццё, што перад намі патухла ўладанне самой смерці, і тыя, што прабывалі ў магілах, аказаліся жывымі! Ён уваскрэс, і як расплываецца дым, як растае воск перад аблічам агню, так знікаюць з веруючай душы ва ўваскрэсенне апошнія сумненні, уцякаюць хістанні і ўсялякія спробы ворага ісціны ўсяліць у яе смяротныя цені недаверу да дабрыні і праўды, нявер'я ў іх канчатковую перамогу над светам злосці і хітрасці.

Хрыстос Уваскрэс! — О, цудоўная, усёажыўляючая звестка! О, святая, цудоўная, усярадасная ноч Уваскрэсення! У хвалях жыццёвых турбот, калі пазіраеш на цябе зводдалі, ты здаешся звычайнаю сярод іншых начэй года. Але ж настала ты, прамяністая, загаварыла сваёй уладарнай моваю і ўсё асвяціла, усім заўладала ў глыбінях сэрца і ўзрушыла нават самыя зачарсцвелыя з іх. Нездарма паэты ўсіх часоў і народаў склалі ў гонар Уваскрэсення Хрыстовага самыя цудоўныя вершы. Нездарма многія тыя, што сумняваюцца, пры першым удары звана ў пасхальную ноч „рэальна спазналі і спазнаюць Бога...”

Вядома, дайсці да гэтага дадзена не кожнаму. Толькі дзяцінства з яго непасрэднаю вераю і свежасцю пачуццяў зазнае моц і паўнату гэтай радасці і праўды. Гэта чалавек веры, дзіця Божае, вялікае дзіцянё веры, ведае ў сваім непарушным перакананні, што вароты раю ў гэтыя дні не зачыняюцца і душы памерлых лунаюць падчас цудоўнага свята Пасхі ў нябесным палёце ў горнія шчаслівыя мясціны.

Чалавек чым даўжэй жыве, чым больш удумліва ставіцца да навакольнага свету, чым шырэйшы мае вопыт, больш

☞ Працяг на стар. 9

## КАБ НЕ БЫЛО ГОРШ

У Маліннікаў Арлянскае гміны ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Як гэта там удаецца?

**Настаўніца беларускае мовы, матушка з Волькі-Выганоўскае Марыя Савіч**: „У нашай школе ніколі да беларускай мовы не ставіліся як да неабавязковага прадмета. Вучні на мае ўрокі ходзяць так, як і на кожны іншы. Але, я лічу, не можна гэтым задаволіцца, на мяне кладзецца яшчэ вялікі абавязак — зацікавіць вучняў. Мы на занятках, каб не былі яны аднастайныя, і казкі чытаем, і „Зорку”, і „Ніву” ў старэйшых класах. Нядаўна, напрыклад, у пятым класе складалі мы крыжаванку на тэму вясны, з прымаўкамі. У некаторых вучняў атрымалася проста цудоўна”.

Як усюды, так і тут адчуваецца недахоп дапаможнікаў.

„Дапамагае нам візітатар Тамара Русачык, — працягвае пані Саевіч, — ад яе мы „Вясёлку” атрымліваем, „Настаўніцкую газету”, часопіс „Школа і мы”. Беларуская мова, як прадмет, мае высокі ранг яшчэ і таму, што амаль заўсёды нашы найлепшыя вучні пасля восьмага класа ідуць у Бельскі беларускі ліцэй”.

„У гэтым годзе Ліцэй Тарашкевіча выбралі чатыры асобы, — **кажа дырэктар Вольга Стэльмасяк**, — а летась аж шэсць з чатырнаццацёх выпускнікоў”.

У нашу размову прабіваецца бразгат з калідора. Нейкія дзядзькі ўносяць велічэзныя каструлі-тэрмасы. „Гэта абед са школьнай кухні ў Орлі прывезлі, — паясняе пані дырэктар. — Гэты аўтобус потым развозіць дзяцей па хатах. З даездамі, як і з харчаваннем, справа ў нас, думаю, развязана вельмі добра. Гэта важнае, бо ў нашай школьнай акрузе аж адзінаццаць вёсак. Ну, зразумела, самі Маліннікі, а далей: Шарні, Пашкоўшчына, Тапчыкалы, Кошкі, Грэдалі, Паўлінова, Москаўцы, Волька-Выганоўская, Рыгораўцы, Чахі-Забалотныя і Круглэ. У гэтай апошняй вёсцы, праўда, дзяцей няма. Але і так — 113 вучняў — гэта сёння на вясковую школу не мала”.

Здавалася б, у Малінніках могуць спаць спакойна — такой школе яшчэ жыць ды працаваць тут настаўнікам доўгія гады.

„А дзе там, будучыня і ў нас не такая пэўная, — кажа пані дырэктар, — у нас таксама наглядаецца спад колькасці вучняў. У восьмым класе цяпер 24 асобы, а ў нулявым аддзеле — толькі дзевяць.

☞ Працяг на стар. 8



*Юрка Буйнюк — другі злева — з сябрамі з класа (злева направа): Андрэем Нічыпаруком, Лешкам Краўчуком і Юркам Сахарчуком.*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Zgłaszane przez mniejszości potrzeby są zdecydowanie większe niż możliwości finansowe państwa — ocenił dyr. Mirosław Sawicki z MEN-u, przypominając, że w tym roku prawie 52 mld zł. zostanie przeznaczonych na 11 inwestycji w szkolnictwie dla mniejszości, w tym 5 dla białoruskiej, 3 dla litewskiej, 2 dla niemieckiej, 1 dla ukraińskiej.*

*(Rzeczpospolita, nr 81)*

**Пан Савіцкі кожную інвестыцыю ў галіне асветы на Беласточчыне лічыць, што яна прызначана на патрэбы беларускага асяроддзя і што ў школах Беласточчыны навучанне вядзецца на беларускай мове. Усё згаджаецца.** Tak trzymać!

* * *

*Nie mam nic przeciwko mniejszościom narodowym w Polsce, ale powtarzam wciąż, że powinna być rządzona przez Polaków* — **сказаў Анджэй Лепер.**

*(Polityka, nr 15)*

**Лепер, як відаць, з'яўляецца нармальным дэмакратам і ліberalам. У Беластоку назвалі б яго нават вельмі разважным і памяркоўным палітыкам.**

* * *

*Białostocka Solidarność znów szaleje i najwyraźniej idzie za ciosem. Po ujawnieniu strasznego spisku białoruskich pisatieli z tygodnika „Niwa” i napuszczeniu na nich UOP-u, obudzonego w środku nocy premiera i paru innych średnioprzytomnych instytucji Panna „S” nie ustaje. W protestach oczywiście. Związek, który nie protestuje, umiera. Albo przeradza się w osiedlowy klub emerytów, co na jedno wychodzi. A tu wybory za pasem, trzeba się ludziom pokazać. Ci, co będą niebawem głosować, bardzo lubią, kiedy protestuje się przeciwko czemuś niemiłemu.*

*(Kurier Podlaski, nr 67)*

* * *

*Komunizm uruchomił w Polsce chama. Cham w Polsce przedwojennej znaczyło kogoś, kto pochodził ze wsi. Najczęściej słowo to było używane przez lumpenproletariat i bardzo drobne mieszczaństwo, które przez to chciało powiedzieć, że było od „chamów” lepsze.*

*Cham prawdziwy, cham urodzony, cham naturalny to zapewnie coś innego. Z pochodzeniem społecznym nie ma on nic wspólnego, zdarza się we wszystkich sferach. Jego definicją jest arogancja, absolutna pewność, że mu się wszystko należy, ale go nie obowiązuje, więc wszystko należy mu się za nic. Nie szanuje cudzej egzystencji, ponieważ uważa, że świat został stworzony tylko po to, żeby mógł zaistnieć on i żadnej zagadki bytu wobec tego nie ma. Cham wie wszystko, wie wszystko najlepiej i nie musi się niczego dowiadywać. Rzeczywiście wie wszystko co jest w zasięgu jego ryja.*

*Komunizm odszedł, cham pozostał* — **сказаў Славамір Мрожак.**

*(Polityka, nr 15)*

* * *

*Arłamowo znajduje się w Bieszczadach. Jest tam ośrodek rządowy, lotnisko, teren uzbrojony w kable i rury. Czyli w sam raz nadaje się pod uprawę. Lokalizacja rolnictwa w górach to pomysł godny uwieńczenia. Warszawa mogłaby być centrum światowej turystyki, a Bieszczady spichlerzem Europy* — **каментуе выказванне прэзідэнта РП**

*Gazeta Współczesna (nr 68).*

* * *

***Дык што гэта за народ — беларусы? Чаму іх урад так імкнецца пазбавіцца дзяржаўнай незалежнасці? (Ды і не толькі ўрад, такія настроі ёсць і ў нашых камуністаў, у адрозненні, скажам, ад грузінскіх і нават у значнай часткі насельніцтва). Можа, такое становішча завецца беларускай талерантнасцю? Дык жа не! Гэта завецца нацыянальным нігілізмам, пагардай да сваёй нацыі, мовы і гісторыі. Вось такія рысы сапраўды адлюстроўваюць сутнасць сучаснага беларускага грамадзяніна. Пад прыкрыццём выдуманай талерантнасці хаваецца нікчэмнасць і душэўная пустэча, жабрацкая псіхалогія і палітычны сервілізм.***

*(Літаратура і мастацтва, н-р 12)*

Прыкрае гэта, але праўдзівае.

* * *

***Беларусь дзеліцца на сферы ўплываў замежных мафій.***

*(Звязда, н-р 60)*

**Сапраўды, сітуацыя ў Беларусі ёсць драматычная, калі ўжо нават беларуская мафія не ў змозе пазбыцца канкурэнцыі.**

* * *

*Kto wygra następne wybory? Na pewno nie SLD. Wykonam wszystko w rękawiczkach i jak się zorientują co jest grane będzie już za późno* — **сказаў прэзідэнт Лех Валэнса.**

*(Rzeczpospolita, nr 76)*

* * *

*Symbolem Partii Eskimosów Polskich są dumne orły, których głowy zwieńczone są koronami z krzyżem, towarzyszy im Miecz Chrobrego i Kotwica Polski Walczącej. Wszystko to jest trzykrotnie opasane biało-czerwoną szarfą. Eskimosi powołując się, iż są mniejszością narodową, złożyli w Ministerstwie Kultury i Sztuki preliminarz swoich wydatków na sumę 3 miliardów 794 miliony. 131 milionów przewidzianych jest na konferencję naukową „Eskimosi w historii Polski”, 414 mln. zł. na Dni Kultury Eskimoskiej, resztę na wydanie książki kucharskiej „Gotuj po eskimosku” i albumu „Flora i fauna w kraju Eskimosów” oraz kwartalnika „Igloo”.*

*(Życie Warszawy, 11.04.94)*

**У такі спосаб „патрыёты” пратэстуюць супраць** „absurdalnemu wydawaniu pieniędzy z kieszeni podatnika na kulturę mniejszości narodowych”. **Выглядае на тое, што нацыянальныя меншасці ў Польшчы не працуюць і не плацяць падаткаў.**

* * *

*A w Chinach wielką furorę robi niejaki dr Chen Kai. Prowadzi w Szanghaju prywatną „Klinikę Rehabilitacji Męskich Funkcji Seksualnych” i oferuje terapię wydłużania penisa. Gwarantuje zwiększenie długości minimum o jedną trzecią. Raz tylko odmówił zagranicznemu studentowi, który i tak miał już 18 cm długości.*

*(Reczpospolita, nr 77)*

❐

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** сустрэўся з парламенцкім клубам Саюза левых дэмакратаў. У ходзе сустрэчы прэзідэнт заявіў аб сваім вяртанні да супрацоўніцтва з СЛД у справе падрыхтоўкі новай канстытуцыі. Такім чынам быў змякчаны канфлікт паміж прэзідэнтам і сеймавай кааліцыяй.

**19 чэрвеня 1993 года** адбудуцца выбары ў мясцовыя самаўрады. Распараджэнне аб іх правядзенні прэм'ер-міністр **Вальдэмар Паўляк** падпісаў не чакаючы на новы закон аб выбарах, паколькі не быў бы ён адобраны прэзідэнтам, аб чым заявіў раней Лех Валэнса. Чэрвеньскія выбары адбудуцца паводле выбарчага закона ад 1990 года.

**Міністр замежных спраў Анджэй Аляхоўскі** прабываў з трохдзённым візітам у ЗША па запрашэнню Фонду імя Рэйгана. Тэмай перагавораў была перш за ўсё справа візітаў прэзідэнта Біла Клінтана ў Польшчы ў ліпені і віцэ-прэзідэнта Альберта Гора ў жніўні ў сувязі з угодкамі Варшаўскага паўстання.

**„Трактат з Польшчай для Літвы патрэбны,** але той, які мае быць падпісаны, далёкі ад дасканаласці”, — сказаў лідэр літоўскай апазіцыі **Вітаўтас Ландсбергіс.** На яго думку, літоўскі бок пайшоў на лішнія ўступкі. Ландсбергісу не падабаецца, напрыклад, сцвярджэнне, што Польшча прызнае сённяшнія межы і не прэтэндуе на Вільню ды і лічыць яго недастатковым, паколькі ў трактаце не асуджана акцыя ген. Л. Жалігоўскага ў 1920 годзе.

**У Дэпартаменце кадр Міністэрства нацыянальнай абароны** ў прысутнасці праваслаўнага ардынарыя Войска Польскага архіепіскапа **Савы** і віцэ-міністра генерала брыгады **Рамана Гармозы** сямю праваслаўным капеланам былі прысвоены вайсковыя званні. Чын падпалкоўніка атрымаў а. **Міхал Дудзіч,** маёра — а.а. **Аляксандр Шаламаў, Сяргей Дзевятоўскі, Васіль Галчык** і **Мар'ян Бэндза,** а капітана — **а.а. Яўген Бойка** і **Аляксей Андраюк.** Капеланы далі таксама прысягу на сцяг Ганаровай роты Войска Польскага.

**Пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько** прабываў у Беластоку з развітальным візітам і сустрэўся з беластоцкім ваяводам **Станіславам Пруцісам,** прэзідэнтам горада **Лехам Руткоўскім** і архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім **Савай,** каб падзякаваць ім за добрае супрацоўніцтва. Пасол Уладзімір Сянько пакідае Варшаву ў сувязі з прызначэннем яго паслом у Злучаным Каралеўстве Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі.

**Газета „Красная звезда”** — орган Міністэрства абароны Расеі запатрабавала ад польскіх улад высветліць **лёс савецкіх палонных,** якія папаліся ў польскую няволю падчас вайны 1920 года. **Юрый Іваноў** з праўлення Таварыства „Расея — Польшча” сцвярджае, што палонных было 130 тысяч і што на працягу двух гадоў „з прычыны дрэнных умоў у лагерах і нялюдскай трактоўкі” памерла 60 тысяч. На погляд Іванова, палонных у Польшчы расстрэльвалі на месцы. „Паколькі сённяшнія ўлады Польшчы лічаць сябе спадкаемцамі II Рэчыпаспалітай, маем права звярнуцца да іх з патрабаваннем правесці следства”, — піша газета.

**У гонар 175 гадавіны нараджэння Станіслава Манюшкі** ў Філармоніі ў Менску адбыўся гала-канцэрт з оперных арый гэтага кампазітара, падрыхтаваны польскімі і беларускімі артыстамі. Перад канцэртам віцэ-міністр культуры і мастацтва **Міхал Ягела** перадаў свайму беларускаму калегу **Уладзіміру Гілепу** 4 тысячы долараў на адбудову дома Манюшкі ва Убелі. Раней тысячу долараў на гэтую мэту перадала прысутная на канцэрце вядомая польская оперная спявачка **Марыя Фолтын.**

**Будынак Філіяла Варшаўскага універсітэта** (колішняя сядзіба Ваяводскага камітэта ПАРП) у Беластоку рашэннем Генеральнага рэстаўратара помнікаў занесены ў рэестр помнікаў Беластоцкага ваяводства. Будынак гэты быў узведзены ў 1951-1952 гадах па праекту архітэктара Станіслава Букоўскага і з'яўляецца прыкладам манументальнай архітэктуры характэрнай сацыялістычнаму рэалізму.

**Амаль 2000 літраў** нафты вылілася на вуліцы Гайнаўкі. Падчас транспарту пашкодзіўся клапан цыстэрны і на адрэзку 1,5 кіламетра былі забруджаны вуліцы Баторыя і Парковая. Дзякуючы хуткай акцыі пажарнікаў небяспека экалагічнай катастрофы была прадухілена.

**Гміны Супрасль, Гарадок і Чорная-Беластоцкая** аб'яўлены тэрыторыяй, якой пагражае эпідэмія вадабоязі, з увагі на шаленства, выяўленае ў хатняй і лясной жывёлы.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Смерці няма і жыцця няма — рэпартаж пра лёс беларускай вёскі.
- Як жанаты дзядзька хацеў яшчэ раз ажаніцца.
- Гайнаўка перад Фестывалем царкоўнай музыкі.
- — Цяжка прывыкнуць да капіталізму, — гавораць у Нараўскай гміне.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Аб'ядналіся з братняю Руссю!

Прэм'ер-міністры Віктар Чарнамырдзін і Вячаслаў Кебіч падпісалі дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм Расеі і Беларусі. Сутнасць дасягнутых дамоўленасцей заключаецца ў тым, што працэс аб'яднання будзе ісці ў два этапы. На першым, з 1 мая г.г., будуць зняты мытныя пошліны ў гандлі, адменены платы за транзіт расейскіх грузаў на тэрыторыі Беларусі, а Расея пачне бясплатна арандаваць беларускія аб'екты стратэгічных узброеных сіл. Другому этапу — непасрэднаму абмену беларускіх наяўных грошай на расейскія рублі па курсу 1:1 — павінна папярэднічаць палітычнае волевыяўленне народа Беларусі з нагоды аб'яднання грашовай сістэмы з Расеяй. Былі падпісаны таксама сем двухбаковых дакументаў, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай дагавора.

### Насуперак Канстытуцыі

Старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч заявіў, што падпісанне дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм пярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У заяве Багданкевіча гаворыцца, што хаця ён і падпісаў пагадненне (з агаворкай), аднак выступае супраць яго ажыццяўлення. Паводле ягоных слоў, Канстытуцыя не дае ўраду права дазваляць замежным сілам накідаць Беларусі свае правілы. У падпісаным пагадненні гаворыцца аб тым, што Цэнтральны банк Расеі будзе адзінай крыніцай рублёў, а беларускі Нацыянальны банк, кіраваны С. Багданкевічам, будзе зліквідаваны.

— Урад заключыў дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм, парушыўшы Канстытуцыю, — сказаў народны дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Лукашэнка. — Яны зараз паставяць у Вярхоўным Савеце пытанне аб змене асноўнага закона, але гэта іх трэба знімаць з работы за парушэнне Канстытуцыі.

Усе апазіцыйныя фракцыі ў парламенце скрытыкавалі пагадненне і заклікалі ВС разгледзець канстытуцыйнасць дагавора.

### Каментарый Гайдара

„Гэта палітычнае рашэнне, той выпадак, калі палітыка яўна робіць эканоміку сваёй ахвярай”, — заявіў лідэр парламенцкага блока „Выбар Расеі” Ягор Гайдар. Так ён пракаментаваў падпісанне прэм'ерамі Расеі і Беларусі дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм. „У выніку ўжо зараз адкрываюцца магчымасці для злоўжыванняў, штучнага курсу наяўных і безнаяўных беларускіх рублёў, фенаменальных магчымасцей для багачэння за кошт гульні на гэтым”, — сказаў Гайдар. Становучым пунктам дагавора паміж двумя краінамі лічыць ён той факт, што ўся крэдытна-грашовая палітыка абедзвюх дзяржаў будзе вызначацца Цэнтральным банкам Расеі.

### Правы для ветэранаў АК

Усё больш грамадзян Беларусі атрымліваюць польскія ўзнагароды за ўдзел у абарончай вайне 1939 г. і ў барацьбе супраць гітлераўцаў у радах Арміі Краёвай. Удзельнікі абарончай вайны прыраўнены ў сваіх правах да ветэранаў Вялікай Айчыннай. Пры гэтым Беларусь з'яўляецца адзінай дзяржавай на тэрыторыі былога СССР, дзе гэта зроблена. Аднак, як падкрэслівае Пасольства РП, такіх правоў дагэтуль не маюць ветэраны АК. Аб гэтым хадайнічаюць польскі бок і польскія грамадскія і ветэранскія арганізацыі, паколькі АК прызнана адной з армій антыгітлераўскай кааліцыі і ўнесла значны ўклад у барацьбу з нямецкімі захопнікамі.

### Экс-міністр не хоча ў клетку

З чыёйсьці лёгкай рукі пасольствы сталі называць „залатой клеткай”. Менавіта такую залатую клетку знайшлі і для былога міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Ягорава, вызваленага з пасады пасля выдачы Літве кіраўнікоў літоўскай кампартыі — арганізатараў спробы дзяржаўнага перавароту ў студзені 1991 года. Экс-міністру прапанавалі адправіцца паслом у Балгарыю. Апальны генерал-палкоўнік адмовіўся ад залатой клеткі і вырашыў сваю працоўную дзейнасць прадаўжаць у роднай Беларусі і служыць на месцы.

### Падарунак дзецям

Незвычайны і вельмі каштоўны падарунак падрыхтаваў дзецям вядомы пісьменнік Уладзімір Ліпскі. Ён пераказаў у цікавых гісторыях „Біблію”, прычым упершыню, пасля Францыска Скарыны, зрабіў гэта на роднай беларускай мове. Кнігу „Як Бог стварыў свет” з цудоўнымі малюнкамі У. Пашчасцева, якую выпусціла выдавецтва „Беларусь”, высока ацаніў мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі.

### Спаборніцтва званароў

На Вялікдзень званы ўсіх праваслаўных храмаў Менска будуць сапернічаць у мілагучнасці. Дарэчы, калісьці такое своеасаблівае музычнае спаборніцтва было традыцыяй. Аднавіць гэтую традыцыю ўзяўся, створаны год таму па блаславенню мітрапаліта Філарэта, Саюз званароў Беларусі ў імя Паўліна Міласцівага. Саюз аб'ядноўвае пакуль званароў толькі праваслаўных храмаў сталіцы, але ў далейшым мяркуецца яго пашырэнне.

### У чаканні пенсіі

У даўжэзныя чэргі па заслужаную дапамогу па старасці выстраіліся ў пачатку красавіка на поштах пенсіянеры. Аднак, змарнаваўшы час і нервы, большасць з іх вярнуліся дамоў без грошай. Напрыклад, брэсцкі паштамт не атрымаў з пенсіённага фонду больш за трэць неабходнай для выплат сумы. Кіраўніцтва паштамта звярнулася па дапамогу да абласных улад і пачула абяцанне зрабіць выплаты да канца месяца. Ну, а на якія сродкі увесь гэты час жыць пенсіянерам, чыноўнікі не падумалі.

 

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## (7)
## Адкуль узяліся назвы вёсак?

**Пуолько** — асада вёскі Аднога; дыялектнае *пуолько*; назва тапанімічная; параўн. *польно* — малое поле, якое складаецца з кароткіх надзелаў, кусок поля, участак.

**Патока** — тапанімічная назва; у дыялекце *потока, патока*; параўн. *патока* — плывучая вада, паток, ручай, ручаіна, рэчышча або даліна, па якой цячэ ручай. Вёска знаходзіцца над безыменным ручаём, правым прытокам рачулкі Зацісоўкі. Пасяленне пад гэтай назвай было вядомае ў канцы XVI стагоддзя.

**Раманава** — вёска заснавана даволі рана. У 1623 годзе ў ёй было 26 валок зямлі і жыў войт. Адміністрацыйна належала яна да Ялоўскай воласці. Назва вёскі паходзіць ад уласнага імя *Раман* і ўказвае на тое, што першым яе ўладальнікам быў чалавек, якога звалі *Раманам*. Афіцыйная назва вёскі *Раманава* (у дыялекце: *романово* або *казарэзы*) замяняецца ў ваколіцы дыялектнай назвай Казарэзы. Назва *Казарэзы* — гэта агульная мянушка для ўсіх пасяленцаў вёскі, носьбітаў прозвішча *Казарэз*. Прозвішча *Казарэз* у помніках беларускай мовы выступае ўжо ў XV стагоддзі. У гэтай вёсцы і зараз жыве род *Казарэзаў*.

**Рудня** — культурная назва; у дыялекце: *рудня* — месца здабычы і выплаўкі жалезнай руды. Тут над ракой Луплянкай некалі выплаўлялі жалезную руду.

**Рыбакі** — назва вёскі, узята ад назвы службы акрэсленай групы людзей — *рыбакоў*, якія займаліся рыбалоўствам і пастаўкай рыбы ў панскі двор.

**Сахаркі** — пасяленне каля вёскі Аднога; у ранейшых запісах ёсць *Захаркі*; у дыялекце: *сахаркі*; радавая назва ад асабовай *Сахарко — Захар*.

**Сакі** — хутар вёскі Аднога; радавая назва ад асабовай *Сак*; параўн. беларускае слова *сак, сачок* — мяшок; від жаночай вопраткі; посуд, якім адмервалі мёд; сетка (невад) да рыбалоўлі.

**Самойлікі** — хутар вёскі Ціванюкі; радавая назва ад асабовай *Самойлік — Самуіл*.

**Саколе** — прыналежная назва ад асабовай *Сокал*.

**Станэк** — прысёлак вёскі Займа; прыналежная назва ад асабовай *Станэк — Станіслаў*.

**Супруны** — радавая назва ад прозвішча першых пасяленцаў Лаўрына і Міхалка *Супруноў*, а тое ад імя *Сафрон*. Вёска заснаваная ў XVIII стагоддзі.

**Сушча** — тапанімічная назва, якая абазначае сухое месца сярод балот; рукаў ракі з высыхаючай вадой.

**Свінаброд** — прысёлак; тапанімічная назва ад рачулкі *Свінабродка*; у дыялекце: *Свіная рэчка*, правы прыток Плоскі, а тая ад *свінога броду* або броду дзікаў.

**Тайніца** — тапанімічная назва ад рачулкі — правага прытока ракі Нарвы.

**Такароўшчына** — прыналежная назва ад асабовай *Такароўскі* або *Такарскі*.

**Тапаляны** — этнаграфічная назва, першапачаткова абазначала людзей, пражываючых сярод тапаляў або ў вёсцы *Тапаля, Тапалі*. Вёска заснавана ў 1674 годзе.

**Тыльвіца** — першапачаткова тут быў фальварак і памешчыцкі дом, пасля вёска *Тыльвіцка Воля*; прыналежная назва ад асабовай *Тыльвік* (прозвішча літоўскае *Тільвікас*: назоўнік *тільвікас* — кулік, балотная птушка з сям'і бакасаватых).

**Верх Тапаляны** — калёнія вёскі Тапаляны; першапачаткова ўрочышча; тапанімічная назва, якая першапачаткова абазначала верх, край, узлессе, пачатак лесу побач асады *Тапаляны* або які належаў да *Тапалянаў*.

**Займа** — першапачаткова быў тут фальварак, млын, лесапільня; у дыялекце: *займіска* — рукаў ракі над Нарвай і месца лоўлі рыб; у рускай і беларускай мовах *займішча* — кусок зямлі над ракой, залiўны луг, поплаў, які затапляла вада падчас веснавых паводак. Вёска Займа размешчана над ракой Плоскай пры вусці да яе ракі Жэдніцкай.

**Залешаны** — этнаграфічная назва, першапачаткова абазначала людзей пражываючых у мясцовасці *Залессе* або за лесам. У XVI стагоддзі вёска называлася *Залесяны*.

**Затапаляны** — калёнія, першапачаткова ўрочышча; тапанімічная назва — пасяленне размешчанае за вёскай Тапаляны

**Жэдня** — вёска, чыгуначная станцыя і лясніцтва; па-польску: *Зедня*, у дыялекце: *Зедная*; быў тут даўней стаў на рацэ *Зеднай* з млыном, млынар Шымко *Зедніцкі*; зараз у дыялектным вымаўленні *Жэдня*; назва тапанімічная ад назвы ракі *Зеднай* сёння *Жэдніцкай*, правага прытоку Плоскай.

**Шымкі** — радавая назва ад асабовай *Шымко, Шымон*. Пасяленне вядомае ўжо ў пачатку XVI стагоддзя. Шымон, сын Мішкі Матуса, асочніка з Луплянкі, ажаніўся і паставіў першую хату пры тракце, які вёў з Бельска ў Ваўкавыск.

**Юльянка** — калёнія вёскі Баршчэва; Юльянка або Глыбокі Кут назву ўзяла ад *Юльяны* (па беларуску: *Ульяна*) жонкі Ігната Владкоўскага, былога суддзі з Дабружанскага павета. У 1831 годзе купіў ён сваёй жонцы маёнтак у 1029 дзесяцін. Паралельна выступаючая назва *Глыбокі Кут* — тапаграфічная.

**Юшкаў Груд** — даўным-даўно пасека, пасля дробны маёнтак; назва *Юшкавы* з'яўляецца прыналежнай ад асабовай назвы-імя Юшка (*Юрый*). *Груд* — гэта сухое месца, якое ўзвышаецца сярод лугоў і балот.

**Ялоўка** — назва вёскі паходзіць ад ракі Ялоўкі, левага прытока Свіслачы. Ялоўка атрымала гарадскія правы ў 1545 годзе, за панаванне каралевы Боны. Рака *Ялоўка* атрымала сваю назву ад дрэва *елка* ці ад *яловага лесу*.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ДОБРАЯ НАВІНА

Навінай добраю гудзе —
У цэркву ўсе народ ідзе.
Зорка глядзіць ужо з нябёс.
Хрыстос ўваскрос, Хрыстос ўваскрос.

Растала покрыва снягоў,
Сплыло з палёў, лясоў, лугоў.
Пазбыўся лёду ціхі плёс.
Хрыстос ўваскрос, Хрыстос ўваскрос.

Вось прачынаецца зямля
І адкрываецца ралля.
Ідзе вясна, мінуў мароз.
Хрыстос ўваскрос, Хрыстос ўваскрос.

Навінай добраю гудзе —
З цэрквай усіх народ ідзе.
Месяц глядзіць ужо з нябёс.
Хрыстос ўваскрос, Хрыстос ўваскрос.

*Гэтую песню спявалі калісь у ваколіцах Заблудава. Тэкст у рэдакцыю даслаў Аляксандр Барташэвіч.*

# „МОЖА ГРЭЧКУ ЗАСЕЕ"

Каля былога ПОМ у Нарве, пры вуліцы Міцкевіча, стаіць некалькі блёкаў. Паміж імі знаходзіцца тэнісны корт агароджаны сеткай. Па-суседску — былы заводскі інтэрнат. Ідзе ў ім рамонт.

— Зімою, — кажа Люцына Хадакоўская, жыхарка аднаго з блёкаў, што ў суседстве тэніснага корта, — дзеці палівалі асфальт вадою і мелі тут слізгаўку. Восенню войт зачыніў гэты корт, а з 1 красавіка гэтага года зрабіў на ім склад шлаку (żużlu) з кацельні інтэрната. Сказаў яшчэ, што трэба павесіць табліцу „Na teren budowy wstęp wzbroniony". Вось які з яго гаспадар — людзі смяюцца, што можа грэчку на корце засее...

— Пляц пад тэнісны корт ёсць, — сказаў войт Ян Тапалянскі, — і гэты корт можна там наладзіць, калі паправіць асфальт — яго пакарабаціла, некаторыя выгібы былі вырубаны і цяпер там дзіры. Для гэтага, аднак, патрэбны гаспадар, які пераняў бы гэты корт разам з агароджаю. Найлепш, каб ролю гэту ўзяла на сябе ўправа жыллёвага кааператыва. Могуць, дарэчы, быць гэта і фізічныя асобы. Старшыні кааператыва прапанова такая здалася неадпойчы. Яна актуальная і надалей. Да гэтай пары прапанову гэтую старшыня не прыняў. Пляц пад кортам прыналежыць раманаванаму інтэрнату. Намаганнем самой гміны корт можа быць перададзены ва ўжытак толькі пасля заканчэння рамонту інтэрната. Кортам, пасля яго дабраўпарадкавання, адміністраваў бы будучы кіраўнік інтэрната-гасцініцы. Выглядае на тое, што кааператыў не хоча браць на сябе гэтага лішняга клопату — бадай, хапае яму і сваіх пляцаў, на якіх ужо наладжаны месцы для дзіцячых гульняў. Недалёка знаходзіцца таксама стадыён. Уся гэтая, на першы погляд канфліктная, сітуацыя — вынік парадкавання маёмасці. Калі пляц пад кортам быў уласнасцю ўпаўшага ПОМ, не меў ён агароджы і моладзь ім карысталася свабодна. Аднак жа, у рамках гэтага парадкавання маёмасці корт агарадзілі. Кааператыў, які паводле статута павінен дбаць пра добраўпарадкаванне маёмасці, пляцу гэтага не хоча, бо мае клопат з утрыманнем парадку ў саміх блёках. Не першы ўжо гэта выпадак, калі аб'ект патрабуе свайго гаспадара, а людзі неяк не кваляцца, бо навошта ім лішні клопат — хай гміна ўсё зробіць.

**(ам)**

# ВЯСЕЛЛЕ

Велікоднае свята наступае пасля доўгага посту, а затым наступае перыяд вяселляў. Ёсць такія месяцы, напрыклад, май, калі маладыя не павінны ладзіць вяселля, бо тады любоў хутка мінае а на яе месца прыходзіць сварка. Сёння хачу напісаць, як выглядала вяселле калісь. Была гэта вялікая гасціна, якая доўжылася тры дні і на якую склікалі каля 200 чалавек. Апрача сваякоў былі прошаны сябры маладых, суседзі, а бывала, што і цэлая вёска. Галоўную ролю на вяселлі іграў маршалак. Быў ім найчасцей хросны бацька маладой або маладога. Помню, у Відаве Мікалай Калішэвіч быў больш чым 10 разоў хросным бацькам, усе яго хросныя дзеці згулялі вяселлі, на якіх ён быў маршалкам, а ён сам жа астаўся ў кавалерах! Ведаў ён многа прыказак, звязаных з гэтым абрадам. Жанчыны пяклі піражнае, якое называлася банкух, — сімвал багацця. Банкухом і чаркай частавалі гасцей, калі перапівалі падчас дараў. Цяпер маладыя адыходзяць ад традыцыйнага абраду, бывае і так, што вяселле адбываецца без гарэлкі. Людзі пачынаюць разумець, што будучае шчасце не залежыць ад вясельных тостаў, а п'янка да нічога добрага не даводзіць.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЧАМУ СЦЯПАН З ЖОНКАЙ РАЗЫШОЎСЯ

Калі добра памятаю, было гэта ў 1986 годзе. Зайшоў да мяне Сцяпан Дуброўскі — відаць было, што нейкі клопат яго мучыць. Не буду дапытвацца, падумалася мне, калі ўжо прыйшоў, то хай сам скажа. Пачалі мы з ім гаварыць пра ўсялякія справы — як цяпер гаспадарам цяжка жыць, а яшчэ цяжэй пенсіянерам, бо мала грошай атрымліваюць. Сцяпан тады неяк глянуў на мяне і кажа так: „Ведаеш, Іван, я буду са сваёй жонкай браць развод і хачу, каб ты быў сведкам у нашай справе". Гэтыя словы да таго мяне задзівілі, што я і слова не мог вымавіць. Калі, аднак, прыйшоў у сябе, кажу яму так: „Табе што, Сцяпан, задумалася на старыя гады, дзеці ўжо дарослыя дый не было чуваць, каб ты з жонкаю сварыўся". Пачакай, кажа Сцяпан, я ўсё табе раскажу, чаму мне развод патрэбны. Ведаеш, Іван, кажа ён, я быў пенсіянерам і мне забралі пенсію, бо ў жонкі ёсць зямля, якая перавышае норму дзесяці сотых. Дастаў я пісьмо з ЗУСу, што пенсію з-за жончынай зямлі мне не выплацяць. Цяпер сам падумай, кажа далей Сцяпан, што мне рабіць — ці жонкі адрачыся, ці грошай. Я падумаў, што лепш будзе ўзяць развод, то грошы будуць, а і жонка надалей будзе жонкай у хаце і ў пасцелі. Толькі ў дакументах буду разведзеным.

Калі пачуў я такое тлумачэнне, падумалася мне: ну і галава гэты Сцяпан. Згадзіўся я быць сведкам у судзе. Адна думка толькі трошку мяне турбавала — што гаварыць у судзе, каб добра было для справы і не пашкодзіць таксама Сцяпану з жонкай. Тут дапамог Сцяпан — будзе яшчэ адзін сведак, Дамінікаў Грыша, у судах абазнаны, ён ужо ведае што сказаць, каб добра было.

Калі суддзя запытаў мяне, што я ведаю ў гэтай справе, я сказаў: „Сцяпан жыве ў прымаках, а яго жонка Гандзя не пускае начаваць у хату. Сцяпан спіць у клуні, а зімою часта начуе па суседзях. Ну, проста, Сцяпану ў жончынай хаце месца няма". Сказаў я яшчэ, што такое жыццё доўга ўжо цягнецца. Мае словы пацвердзіў Дамінікаў Грыша. Жонка Гандзя, вядома ж, нашых слоў дакладна не пацвердзіла, але сказала, што з Сцяпанам жыць не будзе. Суддзя зрабіў перапынак, каб падрыхтаваць прысуд.

Праз гадзіну яго адчытаў — усё глядзеў то на Гандзю, то на Сцяпана. Даў ім развод. Пасля гэтага суддзя яшчэ дадаў, што спраў такіх шмат бывае, калі прымакі не могуць да старасці дажыць. Відаць, яму падумалася, што „прымачае жыццё сабачае" і ў першым ужо тэрміне даў развод, каб вызваліць Сцяпана ад бяды.

Калі ўсе мы вярнуліся з суда, Сцяпан з Гандзяй запрасілі нас, сведкаў, на абед. За абедам сталі жартаваць, што цяпер п'ем гарэлку за развод, а як прыйдзе лепшая хвіліна, то пэўна вып'ем і за вяселле — Сцяпана і Гандзі, вядома ж.

З тае пары, як Сцяпану паставілі ў дакументы „разведзены", жыве ён з Гандзяй як і жыў, мае сваю пенсію, а нават і каханку — бо ж Гандзю цяпер і так можна назваць.

**МІКАЛАЙ ПУЧКО**




**„Нацыянальная ідэнтыфікацыя на польска-беларускім памежжы" („Ніва" н-р 15 ад 10.IV.1994 г.).**

Калі беларусу, які пражывае на Усходняй Беласточчыне бракуе нацыянальнай самасвядомасці, акрэслівае тады ён сам сябе, між іншым „тутэйшым", праваслаўным або проста касмапалітам. Пішу „між іншым" таму, што часта так бывае, што ён зусім сябе не акрэслівае. Такі чалавек-беларус чуе, што ягоная гаворка іншая, чым афіцыйная дзяржаўная мова. Гэты факт парушае яго ўнутраны спакой, але на коратка. Дзяржаўная прапаганда, навука дзесяцігоддзямі ўбівалі ў галаву жыхароў Польшчы, што пражываюць у ёй толькі палякі. А хто далей упіраўся быць грамадзянінам Польшчы іншай нацыянальнасці, то гаварылася яму, што гэта малаістотны факт, а, як вядома, такімі справамі нельга ўсур'ёз займацца. Менавіта таму ліквідавана навучанне беларускай мовы ў школах Беласточчыны, хаця вучылі яе хабісты.

Веравызнанне чалавек так хутка не мяняе, і таму перасяленцы з вёсак у гарады Беласточчыны далей заставаліся праваслаўнымі. Але калі не мелі яны замацаванай нацыянальнай свядомасці за сабою, тым лягчэй прызнаваліся да польскай нацыянальнасці. Кожны паляк ганарыцца сваёй нацыянальнасцю, асабліва ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім ці Беластоку, бо лепш быць ганарыстым палякам, чым задрыпаным „рускім". Менавіта таму маем сярод праваслаўных 55% палякаў. Шкада, што Алег Латышонак не падаў, як гэтыя працэнты раскладаюцца ў розных раёнах Усходняй Беласточчыны, у гарадах і вёсках, сярод адукаваных і простых людзей.

Высновы Алега Латышонка наконт супадзення колькасці выбаршчыкаў, аддаўшых свае галасы на кандыдатаў Выбарчага камітэта Беларускага саюза і праваслаўных, якія свядома прызнаюцца да беларускасці, з'яўляюцца зараз чыстай гіпотэзай, хоць вельмі праўдападобнай. На кандыдата ж у Сенат галасавала куды больш праваслаўных. У жыцці ўсё больш складанае, чым у тэарэтычных разважаннях. Можна прыняць, што выбаршчыкі, якія 19 верасня 1993 г. галасавалі на Беларускі саюз, кіраваліся толькі нацыянальнай свядомасцю. Але калі будзем лічыць толькі на свядомасць беларускіх выбаршчыкаў, то кожныя выбары закончацца пройгрышам. Трэба змагацца за галасы выбаршчыкаў. І гэта проста абавязак кандыдатаў і розных выбарчых камітэтаў. А каб іх прыцягнуць, камітэты і кандыдаты мусяць мець фінансавую падтрымку, бо ў іншым выпадку застаецца разлічваць на свядомасць, а гэтага, як аказваецца, недастаткова.

Не можа быць так, як здарылася падчас апошніх выбараў у Сейм, што выбаршчыкі не мелі магчымасці пазнаёміцца са сваімі кандыдатамі. Кандыдат мусіць быць вядомы асяроддзю, інакш выбарчая кампанія набывае псеўдапалітычны характар.

А тое, што трэба, як піша Алег Латышонак, засяродзіцца на справе асветы і культуры і распрацаваць мадэль беларушчыны для інтэграцыі беларускага грамадства ў Польшчы — гэта проста абавязак усіх тых, хто больш чым свядома беларус. Але гэта проста перадумова ўсяго, што звязана з беларускасцю жыхароў Усходняй Беласточчыны.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

# ХТО БУДЗЕ ПЕРШЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ?

Першыя ў гісторыі Беларусі прэзідэнцкія выбары вызначаны на 23 чэрвеня гэтага года. Каб заявіць сваю кандыдатуру ды зарэгістравацца, неабходна сабраць у падтрымку 70 подпісаў народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета або 100 тысяч подпісаў грамадзян. Першыя каментары, пасля наспех ухваленага закона „Аб выбары прэзідэнта Беларусі" адзначылі, што закон гэты зроблены пад Вячаслава Кебіча — цяперашняга прэм'ер-міністра.

В. Кебіча падтрымлівае камуністычная большасць у беларускім парламенце — перад усім крайне камуністычны і прарасейскі клуб „Саюз". Можа ён таксама разлічваць на падтрымку наменклатуры ды калгаснай беларускай вёскі, у якой слова старшыні калгаса абавязвае ўсіх. Кебіч, пасля адстаўкі галоўнага свайго праціўніка — абвінавачанага ў карупцыі былога старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, з'яўляецца галоўным кандыдатам на пост прэзідэнта.

Згаданы тут Станіслаў Шушкевіч карыстаўся вялікай папулярнасцю ў грамадстве. Аднак у час нядаўняга палітычнага крызісу выявілася, што палітык з яго не надта дзейсны. Будучы амаль тры гады лідэрам дзяржавы, не ўмеў стварыць сваёй палітычнай базы — яго мара пра моцную цэнтрысцкую партыю засталася няздзейсненай. Будучы пры ўладзе, вёў сябе як палітык без выразна акрэсленага вобліку. Замяніўшы навуковую кар'еру на кар'еру прафесійнага палітыка, не ўмеў вывесці Беларусі з крызісу. Як ва ўнутранай палітыцы (рынкавая рэформа), так і ў вонкавай (эканамічны саюз з Расеяй) не ступіў ён на рашучы шлях. Эканамічная сітуацыя ўсё пагоршвалася, а камуністы ўхапіліся за прапагандысцкі лозунг — „паглядзіце, дэмакрат пры ўладзе, а гаспадарка развальваецца". Пасля адстаўкі Шушкевіча апазіцыя голасна выносіла пратэст, але агульна адчула палёгку.

Калі ідзе пра апазіцыю ў Беларусі, згуртаваную на платформе Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" (БНФ) і яго лідэра Зянона Пазьняка, варта адзначыць, што па-рознаму ацэньваюць сілы гэтай жа апазіцыі. Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада Алега Трусава, якая ўваходзіць у склад апазіцыі, падтрымала кандыдатуру С. Шушкевіча — пэўна з думкай, каб сабраў ён частку галасоў вясковых і маламестачковых выбаршчыкаў, прынцыпова больш кансерватыўных. Лідэр БНФ, Зянон Пазьняк, каб прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах мусіць сабраць 100 тысяч подпісаў грамадзян, бо апазіцыя мае ў парламенце ўсяго 30 мандатаў — значыць, бракуе ёй 40 і хутчэй за ўсё не ўдасца іх сабраць. Хаця, трэба тут адзначыць, апазіцыя і прагматычныя камуністы супраць беларускага бетону ў парламенце ўмеюць згуртавацца ў ліку каля 110 дэпутатаў.

БНФ мае найлепшую з усіх арганізацый базу ў тэрыторыі ды можна лічыць, што без клопату збярэ 100 тысяч подпісаў. У спіску папулярнасці, апрацаваным пракамуністычнай і расейскамоўнай газетай „Савецкая Беларусь", БНФ узяў першае месца, апярэджваючы камуністаў. Апазіцыя ўсведамляе аднак, што кандыдатура З. Пазьняка надзвычай супярэчлівая. У пачатках заснавання БНФ Пазьняк выявіў сябе як беспардонны змагар за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Сёння з той жа рашучасцю выступае супраць валютнай уніі з Расеяй. З аднаго боку з'яўляецца ён аб'ектам захаплення, а з другога — спакойная душа беларуса ўспрымае яго стрымана. Ведаюць пра гэта лідэры апазіцыі ды можа аказацца, што ў рашаючы момант выбраў падтрымаюць яны менш супярэчлівага палітыка, які, як і З. Пазьняк, будзе выказвацца за суверэнітэт Беларусі.

Палітыкам такім можа аказацца лідэр Партыі народнай згоды Генадзь Карпенка. Выступаючы супраць валютнай уніі з Расеяй, прыводзіць ён вобразны прыклад: „Канада і ЗША маюць аб'ядняныя гаспадаркі, але валюты — асобныя". Карпенка з'яўляецца да таго ж інтэлігентным палітыкам — пазбягае выказванняў на супярэчлівыя тэмы, заўсёды ўсміхаецца ды набывае штораз большую папулярнасць. Будучы мэрам Маладзечна, паказаўся як дэмакратычны палітык, падтрымлівае добрыя адносіны з нацыянальнымі меншасцямі. Апрача роднай добра ведае польскую і расейскую мовы. Карпенка часта бывае на мітынгах БНФ. Часта адзначае, як і яго партыя, што хоча быць палітыкам нацыянальнага пагаднення.

Супрацьстаўны Г. Карпенку рысы характару ўвасабляе кіраўнік парламенцкай камісіі па справах барацьбы з карупцыяй Аляксандр Лукашэнка. Камуністы, ведаючы пра яго варожыя адносіны да Станіслава Шушкевіча, паставілі Лукашэнку на кіраўніка гэтай жа камісіі з мэтаю адсунуць Шушкевіча ад улады. Зрабіў гэта, але ў дадатак аказаўся яшчэ амбітным палітыкам — пакалупаўшыся ў дасье, на Шушкевічу не спыніўся. Сёння, з увагі на карупцыю, дамагаецца адстаўкі іншых вядучых палітыкаў, між іншым прэм'ера Кебіча. Пра карупцыю ў найвышэйшых эшалонах улады ўсе ў Беларусі гавораць. Людзі ўбачылі ў Лукашэнку трыбуна, які ўголас гаворыць пра тое, аб чым звычайны чалавек баіцца сказаць. Лукашэнка адчуў вецер у спіну ды заявіў свой удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Людзі Кебіча цяпер мазгуюць, як раскусіць Лукашэнку.

Па Менску ходзіць чутка — Лукашэнка ў цяперашнім парламенце ведае ўсяго двух палітыкаў з чыстымі рукамі: ён сам ды вядомы аскетычнымі паводзінамі лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк. Хто ведае, ці Лукашэнка не будзе самай вялікай неспадзяванкай прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Калі пераможа, курс на інтэграцыю з Расеяй непамерна ўзмоцніцца.

Сярод магчымых кандыдатаў на прэзідэнта Беларусі згадваюцца яшчэ прозвішчы цяперашняга старшыні Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба, паэта Адама Глобуса і графа Аляксандра Прушынскага. Гэты апошні, аднак, не мае беларускага грамадзянства і нядаўна быў высланы за межы рэспублікі.

Прэзідэнт Беларусі, як і ў большасці дзяржаў СНД, будзе мець шырокія кампетэнцыі, таму надзвычай істотнымі для будучыні Беларусі, яе ўнутранай і вонкавай палітыкі з'яўляюцца чэрвеньскія прэзідэнцкія выбары.

**УЛАДЗІМІР ПАЦ**

# ІНШАЯ БЕЛАСТОЧЧЫНА

*Тэкст „Аўтобусам у Ялоўку" адшукала ў „Хрысціянскай Думцы" н-р 23 за 1938 год наша карэспандэнтка Лена Глагоўская. Невядомы аўтар апісвае ў ім сваё падарожжа з Беластока ў Ялоўку, куды выбраўся праведаць паэта Янку Быліну.*

*Янка Быліна, цяпер ужо прызабыты, у той час быў вядомым пісьменнікам. Сапраўды называўся Ян Семашкевіч. Нарадзіўся ў 1883 г. у вёсцы Лакцяны пад Астраўцом на Віленшчыне. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю ў 1907 г., служыў ксяндзом на Ашмяншчыне, Віленшчыне і Беласточчыне. Выдаў у Вільні зборнікі вершаў „На прызбе" і „На покуці" ды камедыю „Выбар старшыні". Супрацоўнічаў таксама з беларускімі часопісамі. Многія з ягоных твораў і сягоння бытуюць у вусных пераказах. Памёр у 1952 г.*

*Апісанне падарожжа з Беластока ў Ялоўку, хаця вельмі сціплае, з'яўляецца цяпер успамінам пра іншую Беласточчыну, з жывымі мястэчкамі, у якіх толькі што пачыналася гаварыць па-польску.*

**А. Л.**

## АЎТОБУСАМ У ЯЛОЎКУ

Каб не беларускі паэт Янка Быліна, я не адведаў бы Ялоўкі, гэтага далёка закінутага мястэчка ў Ваўкавышчыне. З Беластока сюды на ўсход будзе кіламетраў з 50. Еду я і кругом мяне беларускія краявіды, шырыня лугоў, пакацістыя ўзгоркі, сінія лясы. Мінуўшы Валілы, я хутка гляджу на Гарадок, фабрычнае мястэчка, 25 кіламетраў ад Беластока. Тут доўгія закруцістыя вуліцы, за імі ўрослыя аселіцы. Я спатыкаю летась збудаваны касцёл, царкву і дзве сінагогі разам. Каля аўтобуса на рынку хмара жыдоў. Беларусы з вазамі сена праязджаюць. Дымяць суконныя фабрыкі і гарбарні працуюць. Дарогай я чытаў назовы вёсак: Пярэймы, Пераходы, Вейкі і г.д. Пастушкі хочуць з намі пад'ехаць і прабуюць учапіцца за аўтобус. Людзі пры сене на нас не звяртаюць увагі. У аўтобусе захацелася мне слоў некалькі да суседзяў прамовіць. Тоўсты ляснік родам з Белавежскай пушчы, што недзе тут служа, па-беларуску са мной гаварыць не хоча. Тоўсты булачнік родам з Беластока, які ў Свіслачы вядзе свой інтарэс, з жыдамі гавора па-жыдоўску, а са мной — дасканальна па-беларуску. Ён смяяўся з беларускай моладзі ў Свіслачы, якая збіраецца ісці з рынку ў ягоную пякарню і гавора: — Булкі купляць да гэнага брухача пайдзём! — Трэці падарожны быў гандляр беларус са Свіслачы. Я думаў, што гэта нейкі пазнаняк, бо гаварыў да другіх дужа высокім стылем і пазнанскім акцэнтам. Але са мной ён перайшоў адразу на мяккую беларускую мову. Ён казаў, што ў гэтым кутку даволі шырока людзі чытаюць беларускія кніжкі і газеты. Кірыліца для гэтых людзей ёсць бліжэйшая, чым лацінка.

А вось і Ялоўка. Першы мешчанін з якім я спаткаўся, дужа дрэнна гаварыў па-польску. Я звяртаў яму ўвагу, чаму дагэтуль ён не навучыўся гаварыць лепей. На гэта я пачуў адказ: Мода, каб гаварыць па-польску ў нас нядаўна пачалася, даўней было інакш і я стары не магу лепш навучыцца. Я даведаўся, што ў гэтым мястэчку мяшчане гавораць пабеларуску. Нат і далей па мястэчках у Ваўкавыскім павеце, як Мсцібаў і Свіслач, жыхары па-беларуску гавораць. У прыгожым месцы гэта мястэчка паложана і захавала яно сярэдневяковы свой характар. Па краёх места два касцёлы і дзве парахіі, па сярэдзіне адна царква пры рынку. Я знайшоў тут і Янку Быліну. Такі чалавек, як беларускі паэт заўсёды ёсць цікавым, і для мяне цяпер Янка Быліна прыслужыўся вялікімі і багатымі матэрыяламі з тутэйшага беларускага жыцця. Напрыклад: калі паэт, дзе на сабранні да народу па-беларуску загавора, тады яму на вуха шэпча які ўрадавец, што не выпадае да людзей гаварыць па-беларуску і тады наш паэт аж на польскую канстытуцыю паклікаецца, каб у гэтым сябе абараніць.

Добра выглядае Янка Быліна, хоць з ягонай мовы чуваецца тое грамавое ўражанне, калі так нядаўна ён са смерцяй змагаўся і прыгатаваны быў ужо ісці на той свет. Глянуць смерці ў вочы — гэта заўсёды рэч трывожная і балючая! Цяпер паэт дужа вясёлы, многа смяецца і гавора цікава на актуальныя тэмы. Янка Быліна яшчэ пісаць будзе, хай толькі ён на здароўі пакрапчэе! Я застаў яго з „КАЛОСЬСЕМ" у руках.

Пагасціўшы ў паэта, я пакінуў яго, але з маёй душы ён ніколі не выйдзе. Гэта чалавек, што ўмее апаноўваць людскія душы! Едучы назад, я разважаў: ці ж беларускаму паэту месца ў Ялоўцы, каб жыць і тварыць для роднай літаратуры!?

*В. Д—а.*
**„Хрысціянская Думка", 1938, н-р 23**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 412
Рэдактар: Сакрат Яновіч

*ЯН ЧЫКВІН*

* * *

Покуль у невады вечныя дзённае сонца не злоўлена
сонцам счарнелым,
З света зыходзячы я астаўляю красу найпрыгожую —
бляск жыватворнага Немага.

Цела з праменняў ягоных было далікатным і гнуткім,
як чыстага золата пробы.
Рукі былі, каб лавілі гасцей наймілейшых —
ганцоў светаносных — паўсюды, заўсёды.

Ах, вылятаюць з мяне, бы з гнязда, пакрыёму апошнія
спелыя, цёплыя промні.
І нічагуткі я хутка, як дрэва-не-дрэва, не буду,
не буду ні бачыць, ні помніць.

Смерць непазбежная будзе калісьці пазбежнай,
калі хто не схоча яе прыпадобы.
Нам яшчэ суджана з белаю дамай ісці ды ісці
пад чарнотаю сонца па мёртвых гарадах.

**АСІМЕТРЫЯ**

Люблю я гэты свет,
Шкадую гэты свет,
Сумую па пяшчоце.

На тым сябе лаўлю —
Тваімі словамі малю,
З табой сама сабе адпавядаю.

Будзь ласкавы, мой свет,
Трымай мяне ў руках —
Я вельмі ад цябе залежу.

Ў табе ёсць, свеце, усё,
Каб я была шчаслівай,
Бо ты — мая сапраўднасць!

З табой адным хачу сустрэч —
Цвітуць ў чаканні кветкі пачуцця,
Я адчуваю пругкасць гэтага памкнення.

Замест хаваць ў грудзях адчай,
Пакінутасці боль, самоту —
Кахай мяне, кахай, кахай!

Сваім жыццём маё жыццё
Не адкладай на потым —
Пакуль ліпнёвы мёд у сотах.

Люблю я гэты свет,
Шкадую гэты свет,
Сумую па пяшчоце.

**ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ**

Дзеці спяць на падлозе,
Як авечачкі, збіўшыся ў кучу.
І зноў адно з іх не можа
Упасці ў сонныя травы,
У матчыных рук калыханне —
Вочкі трэ ўласнаруччу.

Як цвет яблыні танклявай,
Душа дзіцяці светлай плямай
Спаўзла са сталі і па сценах
Паволі йшла дрыжачым бляскам
Да сонца зваблёнага шклянкай,
Туды, дзе жыў срабрысты ляскат.

Дайшла і ў зіхотныя промні апала...
І трэск па шкле зышоў авалам.

**ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА**

Гадзіна адзінаццатая падышла...
І ёсць і ёсць! Была — і ёсць?!
Чаму ў жвіроўні вечнасці
Затрымаліся часу стрэлкі
Перад зенітам поўдня —
Нібыта боязна чакаючы кагось,
Хто меў з'явіцца вось,
Ды не з'ўляецца ў тым чалавечым пекле.

Па той бок, там, калосяцца жыта́
І воды з мёртвых лечаць,
І галавастых шчасця сысуноў
Штодня выводзяць прамяністыя кабеты.
А тут — перамяшчэнне душ адно
Ў цырульна-сціснаным паветры.
Шкілеты іх на могільніках гаманяць,
Апраткі чорным болем свецяць.

Як возера лясное, над якім
Вісіць бяссмертнікам Кашчэй,
Не мрэ і не жыве зачараваны край
Аблакітненых вачэй —
Ні хваль на ім перастваральных,
Ні ў тонях вадакрутаў хоць бы паўжывых...
Рукой дрыжачай я кладу, Айчына,
На твар твой свята-светлыя крыжы.

**ЖАЛЬБА НЕАДПАВЕДНАСЦЬ**
**(або скарга дрэва закаханага ў дзяўчыну)**

Расту да цябе я
Зялёнымі ўсхліпамі,
Пошумам мысляў маіх.

Цягнусь наўздагон
Блакітнай гатычнасці дзён —
Не нашых... хоць бы на міг!

Маё раскрытае неба
Плыве над табой у нябыт
Набраклай кнігай тугі.

Між намі завалы прастораў,
Між намі планідаў кругі
Звіваюць яснасць жыцця у сутонь,

У дымныя дрэваў ствалы,
Што вышэй ды вышэй
Імкнуцца ў нябесны агонь.

**ЖАМЕРЫНЫ**

Зверху востра сляпіла святло
прыціснуты к цвёрдай паверхні
я пусткай валодаў сваёй
крыкам я быў і крык быў тлом
Ў балесна-імглістай лагодзе
вільготнай гарачцы сноў
мне рукі забралі абедзьве найменей
і вярбе аддалі за вакном
Галяк што ірве апендыцыт
бы шылам пальцамі цыт і цыт
А прага размовы ў прыродзе
як жэрдкі і белага пеўня
ці выбітай шыбіны з клёнам
Таму там на голлі зялёнай слівы
вешаўся нехта дужа шчаслівы
а побач кнігу пісаў шалёны

І такая там ціш адхімічана
што ў тэрмометрах топіцца ртуць
і чутно — з начнікамі начніцы
усё сарочкі вар'ятам прадуць

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

## ВЫБУХ

Падвесну за вёскаю нешта моцна грымнула. Праўду кажучы, не адзін раз, а два. Перш грымнула тое Нешта, а пасля ўжо вестка, быццам наша рэчка пад ціскам лёду трэснула ды паімчала ў два бакі... Ці не ўсе мы збегліся да месца здарэння. Выявілася, што рэчачка бяжыць, як бегла, здаровая і вясёлая, а сапраўдным вінаватым у вялізным груку быў выбух таленту ў гміннага паэта Колькі Рыфмаванца.

Выбух адбыўся не столькі прыгожы, колькі трагічны. Бы незразумелая метафара, змяніў цела паэта ў тое ж Нешта, што нічым не нагадвала прататыпа.

І гэтае Нешта, змяшанае з густа запісанымі старонкамі вершаў, з'явілася накшталт доказу аб здзяйсненні адвечнае ідэі неразлучнага спалучэння аўтара з ягоным творам.

## ГАЛАВА

Манька належыла да ліку тых пакорлівых ды нясмелых дзяўчат, якія пагаджаюцца, каб ім у кашу плявалі. Таму не дзіва, што кавалеры гайсалі па Маньцы, колькі ім змогі і ахвоты было. Не кажучы ўжо пра Маньчыну кашу... Час ад часу, вядома, Манька жарабілася, так сказаць, але ніхто нічога ёй дрэннага слова не казаў. У прыродзе бываюць жа большыя нечаканасці.

Маньчыны вершнікі прыходзілі поначы ды адыходзілі ў світанне. Ажно пакуль не знайшоўся такі адзін, што ашалеў для Манькі. Здараюцца гэткія дзівы.

Кажуць, патраціўся дзеля яе сваёй галавою... І ляжала тая маларазумная булава на прызбе хаты нейкі час. А як жа, экскурсіі з навакольных мястэчкаў прыязджалі пабачыць нязвыклае страхоцце. Манька, як мы ўжо казалі, была той нясмелай ды спакайнотнай дзяўчынаю, што пачвару паказаць паказвала, але грошай за тое не брала. Тым болей лезлі цікавыя да яе.

Ажно аднойчы галава прапала. Куды, ніхто не ведае. Сёй-той нібы бачыў якогасьці прафесара, які, шукаючы розуму ў галаве, прыехаў сюды ды забраў тую булавешку ў свой вялікі, але дурны горад.

## ДУША

У гэты дзень вяртаўся ён дахаты з Душою на гарбе. У Душы былі падмаляваныя губкі, вельмі кароценькая спадніčка і не зусім слухмяныя ножкі-пампушкі.

Зайздроснікі плялі пасля, што Душа не была душою, а звычайнай п'янаю бабаю польскай гадоўлі. З другога боку, аднак, вядома, што зайздроснікі — гэта зайздроснікі, і таму іхнае гаварэнне ёсць не больш як гаварэннем. Інакш кажучы, балбатнёю.

Пад ранак Душанька знікнула. Куды і як, цяжка сказаць. Старая Макарыха як быццам бачыла нешта дзіўнае, што паветрала было з коміна ў бок падбеластоцкіх лугоў, і то з відэамагнітафонам „Соні" ў далоньках... Але, хто ж гэта верыць Макарысе? У яе ж рэнта за вар'яцтва.

Усё-такі „Соні" рэальна прапала. Гэта была адзіная праўда над праўдамі.

Ёсць пытанне: а нашто гэтаму дурню відэамагнітафон, калі няма ў яго душы?

## СВЯТЫ

У мястэчку бахнула навіна, што нядарэкі ганчар Кузьма вывалак з багны нябрыдкае дзеўчыня.

Вестка доўга швэндалася з хаты ў хату, пакуль у яе паверылі. Уведала пра яе і наша адурэлая вёска.

Выявілася неўзабаве, што з Кузьмы не такі ўжо пярдун, якім выдае ён сябе. Гэта праўда, што пахла ад яго паніхідаю, але таму толькі, што нядаўна пахаваў ён трэцюю жонку. Памірала яна ні то ад злосці, ні для жарту, а ўсё-такі ўзяла і напраўду выпрасцілася...

Тое дзяўчо Кузьма вывалакаў на сушмань акурат побач тутэйшага рускага базару. Нахлябтаўшыся перш раяль-спірту, моцнай заразы, ад якое больш рызыкі, чымсьці блазноты.

За выратаванне анёлка Кузьму прызналі святым. Не магло быць інакш, раз магільнае тхло схапілася за маладое і румянае ў пагібель. Зрэшты, у навакольных парафіях даўно начэквалі цуду.

Трохі перашкаджала Кузьму ягоная ганчарская прафесія, асабліва прымаўка, што не адны святыя гаршкі лепяць... Але, глупства гэта. Хоць спрабаваў быў талкаваць ды тлумачыць, ды каму тое скажаш?!

Не было Кузьму рады: каб не нудзіцца святым, падчапіў маладую самагубніцу і пайшоў з ёю ў свет.

Меў рацыю: ніколі не вярнуўся сюды.



Рыс. Міколы Давідзюка.

# Зорка
## Старонка для дзяцей

## МАЙ

Май... Вясна раскрылася ва ўсёй сваёй прыгажосці, напоўніла наваколле разнастайнасцю фарбаў і гукаў.

І першы яе цуд — у раскінутых галінах па-веснавому белага саду.

Заканчваецца вяртанне з цёплых краёў пералётных птушак. У ліку апошніх завяршаюць падарожжа ластаўкі, стрыжы, казадоі.

У некаторых птушак у поўным разгары будаўніцтва гнёздаў. На карчах плятуць круглаватыя кошыкі з сухой травы драздзы. Сарока змайстравала сваё гняздо ў непралазной лясной глушы.

Сярод тонкіх галінак дзікай парэчкі, у самай іх гушчыні, прымацавала сваё гняздзечка пеначка. Лясны ж конік не стаў мудрагеліць і звіў гняздо проста на зямлі, у неглыбокай ямцы.

А зязюля наогул гнязда не робіць. Яна таксама прыляцела нядаўна. Знойдзе „кватэру” невялікай птушачкі, падкіне туды сваё яйка ды кукуе сабе бесклапотна.

У некаторых птушак самкі даўно сядзяць на яйках. Гэта — гракі, шпакі, жаваранкі.

Падрастае першы прыплод зайчанят. Зайчыха пасля нараджэння пакідае малых. Насмокчацца малачка зайчаня — да трох і больш сутак без ежы можа абыходзіцца. А толькі прагаладаецца — пачынае рабіць кароткія перабежкі, пакідае след, па якім знаходзяць яго зайчыхі. Корміць зайчанят не абавязкова родная маці.

Заканчваецца лінька ў пушных звяроў. У больш лёгкія летнія ўборы апранаюцца ваверкі, гарнастаі, куніцы. Блукае ў пошуках жукоў і іх лічынак барсук. З’яўляецца на свет патомства ў ваўкоў, лісіц, янотападобных сабак, розных дробных грызуноў.

Ап’яняюча пахне маладая клейкая лістота бярозы і таполі, налілісяа свежай смалою і пайшлі ў рост іголкі елкі і сасны, а ўнізе — незлічонае мноства разнатраўя, кветак. Расцвіла чаромха. І ні на хвіліну не змаўкаюць птушыныя спевы. Гэта клапатлівыя самцы забаўляюць сваіх сяброўак. Бесперапынна трашчаць драздзы, пераліўста заліваецца шпак, адрывіста пасвістваюць іваалгі. А па начах заводзяць непаўторныя захапляльныя пошчакі цуд нашага лесу — аліўкавы салавей, надаючы асаблівую прыгажосць цёплай майскай ночы.



*Другакласнікі з Нарвы.* **Фота Г. Кандрацюк**

*ІВАН ГАЛУБОВІЧ*

## НЯПРОШАНАЯ ГОСЦЯ

На пачатку мая каля рэчкі буяла чаромха. У сасонніку несціхана кукавала зязюля. А калі на зямлю апускаліся прыцемкі, адзін перад адным спявалі ў ракітавых кустах салаўі. Вось якраз такой парою і прыехаў я ў гэтыя мясціны.

Насупраць пошты на маладой кучаравай сасонцы вісела шпакоўня. Кожны год тут жылі і выводзілі сваё патомства сітаўкі. Дзве прыгожыя маленькія птушачкі. У сітавак чорныя шапачкі, спінкі шэрыя, а жывоцікі белыя.

Раптам адна з іх нізка праляцела над зямлёй, бы прасячы дапамогі ў людзей, закружылася над сваім домікам-шпакоўняй.

У сярэдзіне доміка чулася адчайнае віскліваe галашэнне другой птушкі. Так матка плача па сваім дзіцяці, калі тое трапляе ў бяду. І раптам з гнязда клубком выкацілася на зямлю сіваваронка, а разам з ёю маленькая птушачка.

— Ды гэта ж сітавачка!

Птушкі то падымаліся з зямлі, то зноў падалі.

На дапамогу сваёй сяброўцы кінулася другая сітаўка. На зямлю паляцела пер’е. Але сіваваронцы ўдалося вырвацца ад сітавак. Яна падскочыла з зямлі, нясмела ўзмахнула крыламі і падляцела да доміка сітавак. Тыя сігanулі да шпакоўні і загарадзілі сіваваронцы дарогу.

Сіваваронка болей не чапала сітавак. Сядзела мірна і спакойна, пэўна, дайшло да яе, што гэтых дзвюх маленькіх і мужных птушачак ёй так і не перамагчы. А сітавачкі і не думалі адлятаць ад свайго гнязда.

Няпрошаная госця пасядзела яшчэ крыху, а потым спрытна кульнулася з галінкі і знікла ў гушчыні сасновага бору.

*АЛЕГ ЛОЙКА*

## ЧАМУ НЕ СТАРЭЕ ДУБ

*(Казка)*

Што за дуб, слаўны дуб —
Зеляньюткі чуб,
Ён здалёку відзён,
На гары вырас ён.

А ля той ля гары
Мосцяць шлях брукары,
Мосціць Дзень
Мосціць Ноч,
Сходзяць Суткі наўзбоч.

Дзень выходзіць на шлях —
Носіць сонца ў руках.
Ноч выходзіць — вакол
Сыпле зоры на дол,
Пройдзе Дзень,
Пройдзе Ноч, —
Сходзяць Суткі наўзбоч!..

Зажурыўся дубок;
Ападае лісток:
Што ні Суткі — набок
Зеляньюткі лісток,
Сем лісточкаў апала,
Тыдня — як не бывала!..

Затрывожыўся дуб,
Вецер скуб яго, скуб:
Першы Тыдзень —
сем лісткоў,
Зноўку Тыдзень —
сем ізноў,
І на трэці — сем,
На чацвёрты — сем.
Стаў сябе дубок тым цешыць,
Што чатыры Тыдні —
Месяц,
Як тут што ні гавары,
А зусім ён не стары,
Бо падрос на Месяц толькі,
На адзін!..
А вы на колькі?..

Што за дуб, слаўны дуб,
Вецер скуб яго, скуб,
Першы Месяц — скуб,
І другі — зноў скуб,
І дванаццаты скуб, —
Прызадумаўся дуб:
„Пастарэю без пары,
Застануся без кары!..”
І рашыў сабе тады:
„Стану я лічыць Гады:
Хай дванаць Месяцаў
У адзін Год месцяцца!..
Як тут што ні гавары,
А зусім я не стары,
Я падрос на Годзік толькі,
На адзін!..
А вы на колькі?..

Год прайшоў адзін, другі,
Рос дубочак без тугі,
Дзесяць, дваццаць,
трыццаць год
Без ніякіх рос прыгод,
А дарос да ста гадоў,
Прызадумаўся ізноў:
„Сто гадкоў, браткі,
нямала,
Палічыць — сукоў
не стала,
Каб лічыць было з рукі,
Перайду я на Вякі:
Сто гадоў, што я жыву,
Проста Векам назаву!
Як тут што ні гавары,
А зусім я не стары,
Пасталеў на Век ды толькі,
На адзін!..
А вы на колькі?..”

З той пары магутны дуб,
Як бы вецер ліст ні скуб,
Лічыць сотнямі гады
І заўсёды — малады.

З гісторыі Беларусі

## НА ПОКЛІЧ ПОЛАЦКІХ ЗВАНОЎ

Не дамогшыся перамогі над палачанамі ў вядомай бітве на рацэ Нямізе, князі Яраславічы запрасілі Усяслава Полацкага, празванага Чарадзеем, на перамовы пад Воршу. Гэтым разам вешчая Усяславава душа схібіла: нельга было даваць веры ні словам ворагаў, ні іхняму крыжоваму цалаванню. Полацкі князь з двума сынамі пераехаў у чоўне праз Дняпро, зайшоў без усякае аховы ў шацёр да кіеўскага князя Ізяслава і стаў палоннікам.

У Кіеве трох палачанаў-Рагвалодавічаў, закаваўшы ў кайданы, кінулі ў страшную земляную турму. Шлях з яе быў толькі адзін — на той свет. Але лёс вырашыў па-свойму. Кіяне ў 1068 годзе паўсталі супроць разбітага полаўцамі князя Ізяслава. У раз’юшаным натоўпе ўсё часцей гучала імя зняволенага полацкага валадара. „Людзі ж вызвалілі Усяслава з турмы на пятнаццаты дзень верасня і праславілі яго пасярод княжага двара вялікім князем кіеўскім”, — апавядае пра тыя падзеі летапісец.

За сем месяцаў вялікага княжання Усяслаў паспеў нямала: зрабіў імклівы паход на Тмутаракань, разбіў полаўцаў. Можа, якраз тады ён і заслужыў ад аўтара „Слова пра паход Ігаравы” пахвалу за дзяржаўны розум і справядлівасць: „Всеслав князь людям судяше, князем грады радяше”.

Але вакол быў чужы горад, ненадзейная дружына, варожае баярства... Збеглы пасля паўстання Ізяслаў набліжаўся да Кіева з войскам свайго цесця — польскага караля. Усяслаў мог разлічваць адно на просты люд, што пасадзіў яго на кіеўскі пасад, але і гэтая сіла была ненадзейная. Князь вёў кіянаў на Ізяслава, ды праз сотні вёрстаў усё больш уладна клікалі Чарадзея званы полацкай Сафіі.

Летапісы кажуць, што пад Белгарадам Усяслаў таемна пакінуў свае войска і ўцёк у Полацк. Але гэта былі не ўцёкі. Князь вяртаўся на Бацькаўшчыну, у сваю дзяржаву, якой калісьці прысягнуў на вернасць.

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

24

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## Конкурс скорагаворак

Конкурс праводзіцца так: скорагаворка напісана на дошцы ці палатне або паказваецца праз дэманстрацыйны апарат. Удзельнікі моўчкі асвойваюць яе тэкст, затым па чарзе чытаюць. Умова: найбольшая хуткасць, выразная дыкцыя, інтанацыя, захаванне арфаэпіі. Ацэнка: не збіўся — пяць балаў, нязначная недакладнасць — чатыры, значная — тры, збіўся — два балы. Наступная скорагаворка — д р у г і т у р і г.д. Умовы тыя ж, і можа атрымацца, адстаўшыя ў першым туры нагоняць у наступных.

Канчатковыя вынікі падлічваюцца пасля ўсіх тураў (пяці, сямі, дзесяці — па дамоўленасці і часавых магчымасцях); іх неабавязкова праводзіць у адзін дзень і нават тыдзень. На заканчэнне — конкурс фіналістаў, якім даюцца самыя цяжкія скорагаворкі. Праводзіць такія конкурсы цікава не толькі на асабістае першынство, але паміж класамі, атрадамі, камандамі, сем'ямі.

## Скорагаворкі:

*Мілая мама мыла мылам малую Мілу;*
*жвавы вожык жыва жуку пашыў кажух;*
*каму маку — куму макаку;*
*кату — каву, валу — кавалак, кошцы — шматок;*
*вол вала павалок па валоках;*
*кроп у страве, страва на траве, трава на двары, дровы на дрывотні;*
*на каптуры каптур, пад каптуром каптур — каптур пад каптур, каптур на каптур;*
*пад пятым пяньком папаў Паўка пяткай па апеньках;*
*пад полкай каўпак, пад каўпаком палка, каўпакі на палках, палкі ў палках;*
*пекар Пётр пёк пірог;*
*у Піліпа папілі ліпавага пітва;*
*Патапка пакаваў пакупнікам пакупкі ў пакункі;*
*Патап пакапаў — бык патаптаў;*
*Панкратава карта ў Карпа, Карпава карта ў Панкрата;*
*падарыў Панкрат Карпу паркаль і шкарпэткі, паркаль пакралі, шкарпэткі парвалі;*
*ткач ткаў тканіну хутка — выткаў хустку;*
*ткаў ткач хустку на таку, хукаў на руку;*
*калы трэба перакалоць, перакалаціць, пералапаціць;*
*Ларыса рабіла лабараторныя работы ў лабараторыі;*
*Лаўрэн на рэчцы лавіў рыбу. Ларыса варыла рыбу з лаўровым лістом;*
*Паша Сашу пашыла папаху, Саша Пашы пашыў шапку;*
*Паша пашыла, Лора парола;*
*пайшла Паша з шышкамі па шашы за Сашам: у Сашы каша, у кашы сала.*

*Лавіў рыбак судака.*
*Судзіў судак рыбака:*
*—Лоўка, рыбак, ловіш,*
*Судаку сорам робіш!*

*Каня каню канькала:*
*— Папі, конь, папі, конь.*
*Каню конь папікаў:*
*— Папі, каня, папі, каня!*

*— Зачаплю чаплю чапялою!*
*— Не цапай чаплю, не чапляй чапялой: чапля ля цяпельца, чаплі цёпла.*

*— У ката капыты, у каня кіпцюры.*
*— Не, у ката кіпцюры, у каня капыты!*

*(працяг у наступным нумары)*

*АГАГЕЛЬДЫ АЛАНАЗАРАЎ*

## ТРЫ ВУСАТЫЯ КАПІТАНЫ

*Казка*

Вокны сінія завешаны,
І стаіць у цемры дом.
— Мама, казку! — просяць весела
Кацяняты перад сном.

Аднаго завуць Хаматам,
А другіх — Юсуп, Азіз.
Не жадаюць кацяняты
Адклікацца на кіс-кіс.

Ды да раніцы гатовы
Грэцца казачным цяплом —
Не прапусцяць нават слова,
Не паварухнуць хвастом.

У казках — бітвы, ў казках — воі, —
Хто харобры самы з іх?
І каты у тых героях
Пазнаюць сябе саміх...

Дагараюць дровы ў печы,
І ў вуголлі — шмат красы.
А яны ляцяць на сечу
Цераз горы і лясы.

І надзеўшы там шаломы,
Кацяняты ў бой ідуць —
І драпежныя галовы
Цуды-юды з плеч лятуць!..



Казка словам лашчыць вуха
Ад святых дзіцячых дзён.
Казку люба-міла слухаць,
І не хмарыць вочы сон.

У казках — бітвы, ў казках — воі, —
Хто харобры самы з іх?
І каты у тых героях
Пазнаюць сябе саміх...

*Пераклаў з туркменскай*
*УЛАДЗІМІР КАРЫЗНА*

## ЛАГАГРЫФ




1. куе жалеза, 2. праваслаўная святыня, 3. артыст, 4. каляровая птушка, якая лечыць дрэвы, 5. каталіцкая святыня, 6. рабочы, які дабывае вугаль.

Вылучаныя літары складуць назву вогнішча.

Адказаў чакаем два тыдні.

## ЗАЙГРАЙ ЖА МНЕ, ДУДАРОЧКУ

Зайграй жа мне, дударочку,
А я патанцую,
Курка мне яйка знясець,
Табе падарую.

П р ы п е ў:

Тум-тум, тум-та, тум-та,
Тум-та, тум-та, тум-тум. *)




Зайграй жа мне, дударочку,
Як сам разумееш,
Зайграй, сівы галубочку,
Тое, што ўмееш.

Як іграюць без дуды,
Ходзяць ножкі не туды,
А як дуду пачуюць,
Самі ножкі танцуюць.

---

*) *Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.*

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Мама, мама, чаму мяне іншыя дзеці называюць жырафай?

— Ай, сыночку, не думай пра такія глупствы, ты ж не ёсць жырафай! Але, калі ласка, выглянь цераз комін, ці татка не вяртаецца з працы!

* * *

— Грыша, кім ёсць твой тата?
— Мой тата хворы.
— Ну, добра, але што ён робіць?
— Кашляе.

* * *

— У мяне будзе брацік, — хваліцца Агатка.
— Адкуль ведаеш?
— Раней мая мама была ў бальніцы, і адтуль прывезла мне сястрычку. А цяпер у бальніцы — мой тата!

* * *

Дзядуля з унукам сядзяць за горадам і глядзяць захад сонца. У хлопчыка радасны твар.

— Я вельмі рады, — цешыцца дзядуля, — што ты так захапляешся захадам.

— Гэта не захад сонца, дзядуля, гэта гарыць... наша школа!

* * *

Настаўніца бачыць, што адзін з вучняў малюе ўсё чорным колерам. Спалохалася, што ў малога дэпрэсія, і адправіла яго да псіхіятра.

— Скажы, Янка, чаму ўсё малюеш чорным колерам? — далікатна запытаўся хлопчыка лекар.

— Нічога дзіўная — у мяне ёсць толькі такі аловак!

* * *

— Мама, ці ў нашым доме ёсць аптэчка?
— А што здарылася, сыночак?
— Яшчэ нічога, але тата намерваецца ўбіваць цвікі!

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЮР'Я

Штогод 6 мая святкуецца Юр'я (Юрай, Ягор'е). Гэта свята больш чым якое прэтэндуе на сапраўдны пачатак вясны. Менавіта з Юр'я пачынае каваць зязюля; на Юр'я сяляне выходзілі з песнямі і ахвярнымі стравамі аглядаць свае зарунелыя палеткі („Калі прыйдзе Юры, не ўглёдзіш у жыце куры"); з Юр'ем звязаўся і першы выпас скаціны (запасаў для яе павінна было хапіць, як мінімум, да гэтага дня): „На Юр'я каб сена было і ў дурня". Дбайны гаспадар не прапускаў без увагі надвор'я ў гэты дзень і рабіў для сябе пэўныя высновы: „Калі на Ягор'я мароз, будзе добры авёс". Снег на Юр'я падаваў надзею, што ўлетку пабялеюць палі ад удалай грэчкі, і наадварот — „Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода". Густы юр'еўскі дождж упэўніваў селяніна, што вырасце густое вялікае жыта. Жыватворная юр'еўская раса таксама абяцала прыбытак: „Калі на Юр'я раса, хопіць коням аўса". Галоўнай адказнасцю, якой народ надзяліў святога Юр'я было апякунства хатняй жывёлы і гаспадаркі. Адначасова Юр'я называлі і валадаром ваўкоў. У народзе ўяўлялі, што ён едзе на белым кані і замыкае пашчы дзікім звярам, пасля чаго тыя менш нападаюць на скаціну. Статак стараліся выгнаць зараней, на цудадзейную расу, каб потым мець удосталь малака. За лепшае лічылі, калі запасванне супадае з поўняю, „каб усяго было поўна". Перад тым, як выгнаць, гаспадар тройчы абыходзіў сваю худобу з запаленай грамнічнай свечкай і апырскваў яе свянцонаю вадою. Абкурвалі жывёлу падпаленымі купальскімі зёлкамі. Выганялі скаціну з хлява, пасцёбваючы асвячонымі на Вербніцу галінкамі вярбы, затым яе ўтыкалі ў хляве ад злых духаў. На парозе хлява перад жывёлай клалі розныя сімвалічныя прадметы: курынае яйка — нібыта затым, каб заткнуць ім ваўку пашчу і каб каровы былі круглыя і поўныя, а калі яйка заставалася цэлае пасля праходу жывёлы, спадзяваліся, што і жывёла сёлета будзе цэлая; замкнуты замок пад нагамі худобы павінен быў выступаць як ахоўны сродак ад ваўкоў („Няхай так замкнецца яго пашча на ўсё лета"); ніты ад кроснаў („Як гадзюка ніта не разбярэ, так ад кароўкі малака не адбярэ"); сякеру, каб бараніць ёю гавяду ад нячыстай сілы і чарадзеяў; пояс ці жменя выцягнутай са страхі саломы азначалі, што скаціна не будзе адыходзіць ад дому; пакладзены бязмен мусіў садзейнічаць таму, каб жывёла павялічвалася ў вазе. Запасванне на Юр'я станавілася і святам пастухоў — для іх гаспадары рыхтавалі добрыя закускі, а тыя ўжо на пашы ладзілі пачастунак. У першы дзень пастухі не павінны былі рабіць ніякіх пазык, не бралі яны ў поле агню, нажа (вастрышь яго першы раз на весну, гонячы статак, значыла б вастрыць ваўку зубы). Не забываў селянін на Юр'я і пра сваю ніву. Выходзіў на яе са спечаным напярэдадні караваем — увасабленнем леташняга ўраджаю, абыходзіў з ім палеткі, клаў яго ў рунь, і калі той хаваўся ў жыце — яно, казалі, у бягучым годзе вырасце ўдалае. Выносілі ў поле косткі, што засталіся ад велікоднага стала і закопвалі па канцах поля. Асвячоная вербачка ўторквалася ў зямлю з вераю, што гэтым самым удасца абараніць сваю ніву ад граду.

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

### ЗЯЛЁНЫЯ КАМЕНЬЧЫКІ

Адплываю са свету
Замоўклі жанчын крыкі
Я — цяпер дзесьці між зор
У руцэ маёй — каменьчыкі.

Кідаю, яны не ляцяць
Які я цяпер шчаслівы
Падпальваю, не свяцяць
Ці я ёсць? Ці жывы я?

Я, хіба, зараз у небе
Не, у пекле мой кут
Не бачу зусім сябе я
Відаць, няма мяне ні там, ні тут

А можа я ёсць-такі дзесьці
Там, дзе іншых брак
Ці горад гэта, ці вёска
Прапаў недзе шчасця смак

**ЛУКАШ СЦЕПАНЮК,**
**Беларускі ліцэй**
**у Бельску-Падляшскім**

## ЗАМНОГА ШКОЛ?

Нядаўна Алег Латышонак пісаў, што ў пачатковых школах Бельска, у сувязі з дэмаграфічным спадам, пачнецца змаганне за першакласнікаў („У „тройцы" будзеш свой сярод сваіх" — „Ніва" н-р 15). Найбольшая праблема, відаць, у трохкласнай (!?) Пачатковай школе н-р 5. Дырэктар гэтай школы кожны спосаб, каб прыдбаць вучняў, лічыць добрым. Апошнім часам бацькі, якія запісалі сваіх дзяцей у Пачатковую школу н-р 3 (без раёна, з абавязковым навучаннем беларускай мовы) атрымалі паведамленні такога зместу:

*Uprzejmie powiadamiam Państwa o obowiązku zapisu syna/córki do klasy I-szej Szkoły Podst. Nr.5 w Bielsku Podlaskim przy ul. Kopernika 3, z racji iż zamieszkują Państwo w obwodzie tej szkoły.*

*Nadmieniam, iż Ustawa o Systemie Oświaty zobowiązuje dyrektora Szkoły Podstawowej do kontroli realizacji obowiązku szkolnego przez uczniów zamieszkałych w obwodzie tej szkoły. Proszę o dopełnienie czynności związanych ze zgłoszeniem dziecka do szkoły osobiście w sekretariacie szkoły w godz. 8.00—15.30 lub telefonicznie nr. 21-16. Zgłoszenia proszę dokonać do dnia 31.III.1994 r.*

*Dyrektor Szkoły*
*Stanisława Pańkowska*

Мы, са свайго боку, ветліва паведамляем, што такога абавязку няма (пані дырэктар Станіслава Панькоўская пра гэта добра ведае) і нішто бацькам не пагражае, калі запісалі дзяцей у безраённую „тройку". У такім перакананні ўмацоўвае нас аб'ява ў Прадшколлі н-р 3:

*Ogłoszenie*

*Szkoła Podstawowa Nr 1 w Bielsku Podlaskim prowadzi zapisy dzieci 6-letnich do I-szej klasy na rok szkolny 1993/94.*

*Na osobistą prośbę rodziców zapisujemy dzieci spoza rejonu szkolnego. Rodzice zainteresowani nauką dzieci w naszej szkole proszeni są zapisać dziecko do dnia 15 kwietnia 1994 r.*

Спараджае яна, адначасна, пытанне: што гэта, другая школа ў горадзе без раёна? Хто ў гэтым выпадку будзе сачыць за „абавязкам" трымацца сваіх школьных раёнаў?

Ці такія рупліўцы сочаць ано за „тройкай"?

**ак**

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## XII. Рэкрэацыя і турыстыка

Рэкрэацыйныя і турыстычныя рэсурсы Беларусі — гэта маляўнічыя ўзбярэжжы азёр, мясцовасці са спрыяльным для здароўя кліматам, крыніцы мінеральных вод, культурныя і гістарычныя помнікі.

У Рэспубліцы Беларусь выдзелена зоны адпачынку рэспубліканскага і мясцовага значэння, маецца 11 курортаў, звыш 300 дамоў адпачынку, прафілакторыяў, турысцкіх баз і іншых устаноў адпачынку. Рэкрэацыйныя тэрыторыі займаюць каля 9% плошчы рэспублікі.

Найбольш шырока для арганізацыі адпачынку і лячэння выкарыстоўваюцца спрыяльныя кліматычныя ўмовы, азёры і маляўнічыя ландшафты паўночнай Беларусі. Апрача возера Нарач, зоны адпачынку рэспубліканскага значэння, арганізаваны на базе Браслаўскай і Ушацкай груп азёр, Вілейскага вадасховішча.

У краязнаўстве і турыстыцы важнае месца займаюць гарады і ўсе тыя мясцовасці, якія ўпісаліся ў гісторыю ды культуру народа.

Сталічны Менск — самы вялікі горад (1600 тыс. чалавек), палітычны, эканамічны, навуковы і культурны цэнтр Беларусі. Упершыню Менск успамінаецца ў „Аповесці мінулых часоў" пад 1067 годам. Узнік ён на правым беразе ракі Свіслач, пры ўпадзенні ў яе Нямігі (сёння рака Няміга цячэ ў падземнай трубе). З многіх культурных і гістарычных аб'ектаў да нашага часу захавалася некалькі храмаў XVII—XVIII стагоддзяў ды некалькі будынкаў эпохі класіцызму.

Гомель — другі па велічыні горад у Рэспубліцы Беларусь (500 тыс.). Вядомы ён з 1142 года. У Гомелі збярогліся Ільінская царква (XVIII ст.), Петрапаўлаўскі сабор (пачатак XIX ст.), палац Румянцава і двухсотгадовы парк на беразе ракі Сож.

Магілёў — трэці па велічыні беларускі горад (356 тыс.), распалажаны на правым беразе Дняпра. Узнік ён на месцы старога замка ў 1267 годзе. Бліскучым узорам беларускага барока з'яўляецца ў ім Мікольская царква (XVII ст.). У Магілёве таксама адзін з найлепшых у рэспубліцы музеяў — Музей народнай творчасці.

Віцебск (350 тыс.) — горад-прыстань на Заходняй Дзвіне. Паводле летапісу — заснаваны каля 974 года. Помнікаў архітэктуры ў ім аднак цяпер няшмат: некалькі палацаў, ратуша (XVII ст.), руіны Благавешчанскай царквы (XII ст.), гмахі езуіцкага калегіума і каталіцкіх манастыроў. Віцебск вядомы як горад старых мастацкіх традыцый. Працавалі тут Казімір Малевіч, Марк Шагал і Ільля Рэпін.

Адным з найбольш старажытных гарадоў Беларусі, вядомым з 862 г. з'яўляецца Полацк (78 тыс.). У X—XIII стагоддзях быў ён сталіцай Полацкага княства. Агульнавядомыя ў ім Сафійскі сабор (XII—XVIII ст.ст.), Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр (XII ст.). У Полацку жылі і дзейнічалі славутыя ва ўсёй Усходняй Славяншчыне асветніца Еўфрасіння Полацкая і першадрукар Францыск Скарына.

„Заходняй брамай" Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Брэст (258 тыс.) Летапіснае Бярэсце ўпершыню ўспамінаецца пад 1019 годам. Помнікам-манументам Вялікай Айчыннай вайны сталася Брэсцкая крэпасць, у якой савецкія салдаты гераічна бараніліся і не здаліся гітлераўцам. Сучасны Брэст — буйнейшы транспартны вузел.

Гродна (270 тыс.) размешчана на рацэ Нёман і на чыгуначным шляху Варшава — Пецярбург. Сапраўднае ядро горада — старажытная крэпасць Гародня ўзнікла ў канцы XI ст. на правым беразе Нёмана. У XII ст. пабудавана была Барысаглебская (Каложская) царква. Яна стала адным з найвялікшых шэдэўраў дойлідства ўсходніх славян. Архітэктурнымі помнікамі ў Гродне з'яўляюцца таксама іншыя сакральныя аб'екты, замак Баторыя (зараз у ім гістарычна-археалагічны музей), дамы Тызенгаўза.

У Гродзенскай вобласці цікавы багатым мінулым Навагрудак (32 тыс.). Гэта даўняя сталіца Вялікага княства Літоўскага. Тут руіны замка X—XVI ст.ст., царква XVI ст., кляштар і касцёл XVII—XVIII ст.ст., сінагога XVII ст. і дом-музей Адама Міцкевіча. На поўдзень ад Навагрудка ляжыць апетае Міцкевічам возера Свіцязь.

Славуты ў Беларусі Нясвіж — даўняя рэзідэнцыя старажытнага беларускалітоўскага роду князёў Радзівілаў. У Нясвіжы іх замак (цяпер там санаторый), ратуша, гмах езуіцкага калегіума, старадаўні парк. У мясцовай друкарні ў 1562 годзе беларускі асветнік Сымон Будны выдаў свой „Катэхізіс".

У Рэспубліцы Беларусь многа цікавых гістарычных мясцін і багатых культурнымі помнікамі гарадоў, мястэчак і вёсак.

**Апрацаваў**
**ЮРЫ БАЕНА**



# КАБ НЕ БЫЛО ГОРШ

*Працяг са стар. 1*

Гэта па-першае, а па-другое, то арлянскі гігант — школа, якую каб запоўніць, дзяцей у цэлай гміне не хопіць. Цяпер там 220 вучняў, а будынак можа памясціць, бадай, тысячу. Адзін вугаль, якім апальваецца гэты гігант можа знішчыць гміну — я столькі за тры месяцы не спалю, колькі там ідзе ў тыдзень. Пакуль наша школа яшчэ куратарыйная, дык адчуваем сябе даволі бяспечна, але што будзе, калі пяройдзем у распараджэнне са-



*Аня Грайко з II класа прыгожа дэкламуе.*

маўрадаў. Не заўсёды ж у Орлі будзе войт, як цяпер, родам з Маліннік. Ці ж не прыйдзе каму ў галаву пасля чарговых выбараў перавесці і нашых дзяцей у Орлю. Гэтая сотня, па-мойму, і так не выратуе тамтэйшае школы, а настаўнікі пойдуць на брук. Мне то нічога, я ўжо хутка на пенсію магу пайсці, але маладзейшых шкада. Я асабіста супраць пераходу школьніцтва пад самаўрады яшчэ і таму, што не веру, каб такая бедная гміна як наша магла ў чым-небудзь паправіць сітуацыю школ. Гэта будзе проста не пад сілу матэрыяльна".

У Малінніках праблемы такія ж, як і ўсюды. Не хапае грошай на ўсе патрэбныя рамонты, на куплю дыдактычных дапаможнікаў, новых партаў ды крэсел урэшце, якія таксама „зношваюцца". „Не лёгка сёння, — уздыхае Вольга Стэльмасяк, — але што зробіш, трэба неяк даваць сабе рады, каб толькі не было горш. Шмат праблемаў развязваем самастойна, бацькі дапамагаюць, дамаўляемся з гмінай. Ну, вазьміце хаця б харчаванне — у нас за пяць тысяч можна з'есці абед з трох страў, я думаю, што гэта нядрэнна. Палова дзяцей карыстаецца абедамі ў школе, у першую чаргу, зразумела, тыя, хто даязджае".

Вяртаючыся да беларускай мовы. „Мы стараемся прымаць удзел у розных мерапрыемствах, арганізаваных Беларускім таварыствам, — кажа матушка Саевіч, — у конкурсах, аглядах. І не без поспехаў. Другакласніца **Аня Грайко**, напрыклад, узяла другое месца на апошнім дэкламатарскім конкурсе ў Гайнаўцы. Горш пайшло другому нашаму вучню, **Юрку Буйнюку** з шостага класа, але трэба адзначыць, што выступіў ён са сваімі вершамі. Дарэчы, піша ён куды лепш, чым дэкламуе, чаго доказам могуць быць друкаваныя ў „Зорцы" творы."

Юрка Буйнюк прачытаў усе беларускія



*Марыя Саевіч: „Настаўнік павінен вучня зацікавіць."*

кніжкі са школьнай бібліятэкі. Чытае больш прозу, але роздумы ў самоце ўкладаюцца ў вершы. Вось пробка яго таленту.

### Беларуская мова

*Беларуская мова,*
*Ты як плачучая ўдава,*
*Маці, якой на вайне забілі сына,*
*Што бараніў яе і нашу мову.*
*Праліў сваю кроў на чужую зямлю...*
*„Не плач, родна маці,*
*Што пайшоў я ў зямлю спаці.*
*Мяне родная мова вясёлкай убрала,*
*Вясною жаўруковай песняй калыхала,*
*Вяночак з ружаў мне спляла*
*І зямельцы роднай аддала".*

Дзякуй Богу, што ў наш спрошчаны відэа-тэлевізійны час не ўсе шчэ паэты звяліся.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## МАЛІТВА ЗА...

Давай памолімся
У Пасхі свята.
За тых, што гінуць.
За тых, што плачуць.

Няхай жа будзе
Ў нашым сэрцы
Часць іхняй смерці!

**РАМАН ЯРМОЦІК**

## УСЕ МЫ БЛУДЗІЛІ

Кожны з нас быў сынам блудным,
Самалюбным і марудным.
Хоць бацькоў не пакідалі,
Пра Хрыста мы мала знаді.

Паважаць Яго навуку
Мы лічылі лішняй мукай.
Выбралі мы той маршрут,
Што здаваўся без пакут.

Па шырокай той дарозе
Ехалі як п'яны ў возе.
Вярнуліся мы дамоў;
Зноў на бацькаўскі парог.

А нас лаялі, крычалі
Каб гуляць мы перасталі.
Мы гэтага не ўцямілі —
Пра шляхетнае забылі.

Ды й бацькі былі такія
Ї мы самі — не другія.
Не жылі мы у пакуце;
Пэўна і далей так будзе.

Мы блукалі ля свіней
Там, здавалася, відней.
Аднак у цемры мы праспалі —
Вочы рэдка адкрывалі.

Родны Бацька прабудзіў —
Гэтак Бог пастанавіў,
Каб мы болей не грашылі —
Гульні нашы адлажылі.

Мы прыйшлі у родны дом —
Стаў вялікі пералом.
Ў сэрца прынялі Ісуса —
Не прывабіць нас спакуса.

Навучыў нас, як любіць,
Злосць ўсяляку адхіліць.
Запрасіў на пачастунак,
Бо ў Хрысце адзін ратунак.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# УВАСКРЭСЕННЕ ХРЫСТОВА

**Сціхіра ютрані:**
*Воскресение Твое Христе Спасе,*
*Ангелы поют на небесех,*
*и нас на земли сподоби чистым*
*сердцем Тебе славити.*

**Трапар:**
*Хрыстос уваскрос з мёртвых,*
*смерцяю смерць патаптаў і тым,*
*што ў магілах, жыццё падарыў.*

Пасха Гасподняя — Светлае Хрыстовае Уваскрэсенне — гэта самае важнае з усіх свят. Аб яго значэнні выразна гаворац слова 8 песні Пасхальнага канона, які спяваецца на ютрані: „...праздников праздник, и торжество есть торжеств". Вядома, што самага Уваскрэсення ніхто з жывых не бачыў, а першую вестку аб гэтым здарэнні перадаў Святым Жанчынам-Міраносіцам анёл, які сядзеў ля магілы Хрыста. У слове аб Уваскрэсенні Хрыстовым маскоўскі мітрапаліт Філарэт гаворыць, што, мабыць, здарылася гэтае таму, бо яшчэ не даспела вера да таго, каб убачыць і абняць вялікую таямніцу Уваскрэсення.

Аб гэтым, наколькі святым і вялікім быў дзень Пасхі Гасподняй у старажытнай Царкве, сведчаць словы Св. Рыгора Ніскага (335—394), брата Св. Васіля Вялікага: „Сёння ўвесь свет, як адна сям'я, якая сабралася, каб супольна выканаць адзін занятак, адтэрміноўваючы свае штодзённыя работы, быццам на дамоўлены знак звяртаецца к малітве. Няма сёння вандроўнікаў на дарогах, не відаць парусоў на моры, селянін пакінуў сваё арала і апрануўся ў святочнае адзенне, карчмы пустуюць, прапалі шумныя сходы, як прападае зіма з надыходам вясны; неспакой і жыццёвыя буры замяніў ціхі святочны настрой".



А святы Епіфаній, архіепіскап Кіпрскі, так гаворыць: „... гэтае свята — найбольш пераможнае з усіх. Гэта для ўсяго свету свята аднаўлення і збавення. У гэты дзень Бог здзейсніў усе старазапаветныя правобразы і прароцтвы. Нашая Пасха — гэта сапраўдная Пасха, Хрыстос, які Сябе ахвяраваў. У Хрысце нашая вера, нашае права, новы Божы народ, новы, а не стары Ізраіль, новая Пасха, і таму новае духовае абразанне (Св. Хрышчэнне), новая і бяскроўная ахвяра, і новае Боскае аб'яднанне".

Урачыстае пасхальнае набажэнства складаюць Ютрань, Пасхальныя часы і Літургія. Пачынаецца яно апоўначы Хрэсным ходам вакол храма. Каля 20 гадзіны ў суботу пачынаецца чытанне Апостальскіх Дзеянняў, якія, згодна Статуту, трэба прачытаць поўнасцю. Чытаць іх могуць усе ахвотныя. Паўгадзіны перад поўначчу служыцца палуношніца, якая непасрэдна папярэджвае Пасхальную багаслужбу.

Непасрэдна пасля Літургіі пасвячаецца **Артас** — кіслы пшанічны хлеб, які на працягу пасхальнага Тыдня захоўваўся на аналоі перад іканастасам. Сімвалізуе ён прабыванне Хрыста з вернікамі. Адначасна Артас нагадвае аб з'ўленні Уваскрэсшага Хрыста Апосталам, а таксама аб тым, што Збавіцель Сваёй смерцю на крыжы і ўваскрэсеннем стаў для нас сапраўдным жыццятворным хлебам. Звычай свяціць Артас сягае апостальскіх часоў. Апосталы, пасілкуючыся ў любых умовах пакідалі свабоднае месца і частку хлеба ў памяць прабывання з імі Хрыста і спажывання з імі ежы ад Свайго Уваскрэсення да Узнясення (Дз. Ап., 10: 41). Пасля яды прыпадносілі яны гэты хлеб угару, усхваляючы Уваскрэсшага Госпада. Артас раздаецца вернікам у Пасхальную суботу, або, як найчасцей у нас гэта робіцца, у Нядзелю Антыпасхі.

У Пасхальны Тыдзень замест ранішніх і вячэрніх малітваў чытаем Часы Святой Пасхі, а ў сераду і пятніцу не абавязвае пост. Да Свята Узнясення замест „Царю Небесный" тройчы адмаўляем трапар „Хрыстос Уваскрос — Сапраўды Уваскрос". Да Свята Сашэсця Святого Духа на Апосталаў не адбіваем вялікіх паклонаў (да зямлі) і не становімся на калені.

**С. Н.**

# ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

чуллівае сумленне і бліжэй апошняя непазбежная мяжа, тым мацней ён адчувае бязмерную глыбіню ісціны Уваскрэсення і з новай сілай „рэальна спазнае Бога".

Чалавечае жыццё поўнае супярэчнасцей, гэта асабліва адчуваецца ў нашы дні, калі, здаецца, і зло трыумфуе, пачуццё ўласнага бяссілля такое цяжкае, смерць такая непазбежная і жахлівая. Чалавек задае пытанне: куды схавацца ад усяго гэтага, дзе знайсці бадзёрасць, суцяшэнне і радасць? Дзе?

Адказваем: — Ва ўваскрэсенні Госпада нашага Ісуса Хрыста! Сапраўды Ён уваскрэс і пасля сваёй мукі з'явіўся вучням Сваім. Ён „ёсць уваскрэсеннем і жыццём" і гэтым самым даказаў сваю Боскасць, апраўдаў сваю збаўчую справу, перамог зло ва ўсёй яго сукупнасці, умярцвіўшы смерць. Кожны, хто верыць у Яго, чуе настойлівае слова, якое бесперапынна паўтараецца: „ува Мне мае жыццё вечнае". Ї хаця трыумфуе зло, акаянства, супярэчлівасці, а чалавек парушае маральную дасканаласць — Ён уваскрэс, наш Настаўнік і Уладар, Ён патаптаў смерць і даў залог і надзею на канчатковую перамогу вечнай праўды. Ён усім жывым і мёртвым апавясціў пра збаўленне ад зла. З Яго Уваскрэсеннем няма ніводнага мёртвага ў магіле і „жыццё жыве" ва ўсім неабдымным Божым стварэнні. Адсюль наша сённяшняя радасць і трыумфаванне.

Хрыстос Пераможца пекла і смерці крочыць да кожнага, хто гібее „ў цемры і цяні смерці". З гэтага моманту прапаведваецца Евангелле Яго Царства дзеля сведчання ўсім народам, і ўся зямля пакланяецца Яму, пакланяецца імю Яго кожнае пакаленне народжаных на зямлі. Царква Яго заклікае: „адзін другога абымем, скажам: браты, і ненавідзячым выбачым усё Уваскрэсеннем".

Ушаноўваючы Свята Святаў, у яго праменнях, радасці і ва ўспрыманні перамогі над смерцю, мы набіраем сілы і жыццёвай моцы дзеля жывога служэння Богу Жывому і Праўдзіваму, сваёй Царкве і свайму народу.

У святле гэтай праўды і духовай радасці сардэчна віншую Глыбокапаважанае Духавенства, Манаства і Вас, Браты і Сёстры Дарагія Епархіяне, нашу моладзь і дзетак са святам жыцця, радасці, днём хрысціянскага аптымізму і надзеі.

„Усе атрымлівайце поўную асалоду за застоллем веры, усе атрымлівайце дастатак ласкі. Застолле Божае шчодрае; усе насычайцеся — цялец вялікі; няхай ніхто не адыходзіць галодны. Няхай ніхто безнадзейна не плача над грахамі; прабачэнне з магілы Хрыстовае заяснела; няхай ніхто не пужаецца смерці: нас вызваліла смерць Збавіцеля".

Малю Госпада Пераможцу смерці, каб дух пасхальнай радасці напоўніў душы Усіх нас і з іх заўсёды праменіліся любоў, дабрыня і мір, каб мы: „узрасталі ў ласцы і пазнанні Госпада нашага і Збавіцеля Ісуса Хрыста" (2 Пт. 3,18).

„Ісусе Уваскрэслы, уваскрасі душы нашы!"

**Пакорлівы**
**† САВА**
**Архіепіскап**
**Беластоцкі і Гданьскі**

**Беласток-Гданьск,**
**Святая Пасха Хрыстовая 1994 г.**

## СВЯТКАВАННЕ ВЯЛІКАДНЯ Ў ІІ СТАГОДДЗІ

У ІІ стагоддзі насуперак прынятай большасцю цэркваў практыкі святкавання Вялікадня ў нядзелю пасля яўрэйскай Пасхі чатырнаццатага вясенняга дня месяца Нісан ці Авіў, частка хрысціян у Малой Азіі і Афрыцы святкавала Вялікдзень разам з яўрэямі незалежна ад дня тыдня. Не была гэта справа веры, а толькі другарадны літургічны момант. Іншыя цэрквы стараліся дайсці да згоды і толькі дагматычную праблему з гэтага хацеў зрабіць рымскі папа Віктар (189—199 ?). Ён прыгразіў у 190 г., што адлучыць ад хрысціянства тыя Цэрквы, якія будуць святкаваць Вялікдзень нязгодна з Рымам. З гэтага факту каталіцкія тэолагі сцвярджаюць, што быццам бы Віктар даказаў гэтым прымат Рыму над іншымі Цэрквамі. Аднак адзінай інфармацыяй аб гэтым ёсць „Гісторыя Царквы" Яўсевія Кесарыйскага, які жыў у 265—340 г.(?). А там чытаем: „У гэтай справе праходзілі сіноды і сходы епіскапаў, якія супольна аб'явілі пісьмамі да верных усяго свету царкоўныя правілы... Яшчэ сёння існуе пісьмо сабраных тады ў Палесціне епіскапаў, на чале якіх стаяў Феафіл епіскап Кесарыі і Нарксіс, епіскап Іерусалімскі. Ёсць апрача таго пісьмы рымскага сінода з іменем епіскапа Віктара. Акрамя таго існуюць пісьмы епіскапаў Понта, якіх, як самы старэйшы, узначальваў Пальмас, далей парафіі Галіі якой епіскапам быў Ірыней..." Як бачым папа Віктар ёсць там пералічаны, як адзін з многіх епіскапаў, а не кіраўнік іх. Ї не напісана там, што сінод сабраўся па загаду папы Віктара. Нейкія хрысціяне Малой Азіі не паслухалі сінода епіскапаў, а выступленне папы Віктара прызналі незаконным. На чале гэтых епіскапаў стаяў епіскап Эфеса Палікрат. Ён сабраў сінод, на якім пастанавілі святкаваць Вялікдзень разам з яўрэямі і выслалі лісты да хрысціянскіх абшчын і ў Рым, дзе было напісана: „Мы гэтага дня не святкуем легкадумна... Тады я, браты, які жыву з Панам 75 год і які меў зносіны з братамі ўсяго свету і які дакладна чытаў Святое Пісанне, я не баюся ніякіх пагроз бо больш важныя ад мяне сказалі: „Трэба больш слухаць Бога, чым людзей". Цытату гэтую ён узяў ад ап. Пятра. Як бачым, Палікрат выступае супраць папы карыстаючыся аўтарытэтам св. Пятра. Калі папа Віктар аб'явіў, што абшчыны Малой Азіі выключае з адзінства хрысціян, то Яўсевій Кесарыйскі напісаў: „Не спадабалася гэта іншым епіскапам. Звярнуліся да яго (да папы) з напамінам, каб стараўся давесці да міру. Да нашых дзён захаваліся іх галасы, поўныя горкіх дакораў Віктару. Між іншым напісаў пісьмо таксама Ірыней ад імені братоў Галіі, якіх быў начальнікам... і прызваў Віктара, каб не адлучаў цэлых Божых Цэркваў. Так, што Ірыней дапамінаўся міру сярод Цэркваў". Як бачым, пагрозы папы хрысціянства не прыняло з пакорай, а выступіла супраць яго. Нават сам Яўсевій не бачыў у Віктары кіраўніка ўсяго хрысціянства, а толькі называў яго епіскапам Рыма. Усе епіскапы мелі права кідаць анафемы на іншых, але не ўсе карысталіся гэтым, як гэта рабілі рымскія папы. Папа Віктар абвясціў анафему таму, што памылкова прызнаў справу святкавання Вялікадня за догму веры. Спрэчкі з епіскапамі Малой Азіі цягнуліся да V ст., а пасля яны ўстанавілі святкаванне ў нядзелю. Але на гэта не меў уплыву папа Віктар, а толькі сіноды ўсходняй Царквы і таму, што яшчэ да анафемы Віктара гэты абычай увялі хрысціяне Палесціны, Сірыі, Егіпта. У адным з пісем, якія прыводзіць Яўсевій, епіскапы падкрэслівалі абычай, які панаваў у Александрыі, а зусім не ўспамінаюць аб Рыме.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# СТЫМУЛЯТАР ЖЫЦЦЯ

Размова з паэтам
БАРЫСАМ РУСКО

*— Скажыце, калі Вы пачалі пісаць вершы, што было для гэтага штуршком?*

— Вершы пішу ўжо недзе з пятнаццаць гадоў. З паэзіяй ёсць так, што набліжаецца пара, лопаюць аковы, з глыбіні плывуць гатовыя карціны маляваныя словам. А суфлёрам з'яўляецца жыццё, поўнае віроў — добрых і дрэнных. Штуршком безумоўна быў прачытаны зборнік паэзіі Апалінэра. А сапраўды, кожны чалавек нараджаецца з душой паэта.

*— Што вы маглі б сказаць пра сябе?*

— Нарадзіўся я ў Белавежы, а гэта ўжо шмат што абазначае. Маю дзіцячую ўражлівасць фармавала адзіная ў сваім родзе пушча — дзікая і прыгожая старымі дрэвамі. Гэта быў мой свет, адзіны і вечны. На жаль, пушча вынішчаецца. Сёння яна выглядае, як адна вялікая, сыходзячая крывёю рана. У школе я захапляўся геаграфіяй. Кніжкі пра падарожжы былі маім неразлучным таварышам. Менавіта такім спосабам я наведаў увесь свет. Вучоба ў варшаўскім Політэхнічным інстытуце кінула мяне ў абдымкі тэхнікі. Тут я знайшоў сваё новае захапленне. Мікра- і макракосмас — вось, дык, уцеха! Адсюль пайшло захапленне светам Гейзенберга і Эйнштэйна. Потым зачытваўся Бомам („Парадак утоены"), Юнгам („Псіхалогія глыбіні"), Гебзерам („Інтэгральнае ўсведамленне"). Уласна кажучы, цікаўлюся ўсім, што нейкім чынам растлумачвае гэты свет. І нарэшце — паэзія! Думаю, што на гэты раз гэтых некалькі сказаў пра сябе хопіць.

*— Раней мне ўяўлялася, што паэзію могуць ствараць людзі з гуманістычным ухілам. Ваш казус вострa пярэчыць такому погляду. Скажыце, тэхнічная адукацыя перашкаджае ці наадварот — памагае ў стварэнні паэзіі?*

— Я ведаю людзей, якія, закончыўшы дакладныя навукі, пішуць вершы. Каб ствараць паэзію, трэба мець акрэсленыя схільнасці, а не адпаведную адукацыю. Зразумела, кірунак адукацыі можа мець нейкі ўплыў на спосаб пісання, але не асноўны. Паэзія, гэта крык глыбіні, вокамгненная метафізіка; у спыненым часе ствараецца форма нейкай здані, як змест. Не думаю, каб тэхнічная адукацыя была тут перашкодай.

*— Вашы вершы насычаны метафарамі. Не баіцеся, што з-за гэтага чытач не заўсёды іх зразумее, вылавіць усе субтыльнасці?*

— Метафара ў паэзіі неабходная. Яна — незвычайнасць. Запрашае чытача да сааўтарства. Адчыняе дзверы. Дазваляе ствараць столькі версій, колькі ёсць чытачоў.

*— Як, у вашым выпадку, нараджаецца верш?*

— Па-рознаму. Часам верш вымушаны адбыць свой „стаж" у надсвядомасці,



іншым разам нараджаецца спантанна, раптоўна. У гэтым апошнім выпадку, як правіла, не раблю ў вершы ніякіх паправак.

*— У Вашых творах поўна філасофскіх рэфлексій над жыццём, светам, не пазбягаеце і лірыкі. Але здараюцца вам, зусім нярэдка, творы — так бы назваць — „тэхнічныя", якія абапіраюцца ў сваёй канструкцыі на фізічных правілах, на будове сусвету, не гаворачы ўжо пра іх змест, дакладна звязаны з гэтымі праблемамі. Адным словам — дыяпазон вашай творчасці вялікі. Скажыце ўсё ж, якія формы выказвання бліжэйшыя вашаму сэрцу?*

— Гэта праўда, што пішу розныя вершы. Вынікае гэта з маіх зацікаўленняў. Хачу ўзяць слова ў многіх справах. Гавару вершамі. Найбольш адпавядаюць мне вершы рэфлектыўныя, яны быццам з крыві і косці — я.

*— Многія Вашы вершы інспіраваны прыродай Белавежскай пушчы...*

— Як я ўжо раней сказаў, пушча мела асноўны ўплыў на фармаванне майго дзіцячага ўсведамлення, а гэта мусіць даць праекцыю на псіхіку дарослага чалавека. Я сабе не ўяўляю маёй адсутнасці ў пушчы. Яна са мною ўсюды. Я вельмі бядую над яе сёнешнім станам...

*— Бадай большасць Вашых вершаў аб Белавежскай пушчы — гэта немы крык над яе знішчэннем...*

— А ці можна раўнадушна хадзіць па скалечанай пушчы? Разам з высечкай старых дрэў умірае дух той пушчы. Гэта ўжо не будзе пушча, а толькі звычайны лес. Будуць выміраць больш уражлівыя віды жывёл. Зараз апошні момант, каб паўстрымаць высечку дрэў і зберагчы для чалавека хаця б рэшткі гэтай непаўторнай і неаднаўляльнай прыроды.

*— Раней Вы пісалі таксама вершы для дзяцей, зараз ужо хіба не. Чаму? Ці гэта быў толькі нейкі этап у вашай творчасці?*

— Так, гэта быў нейкі этап. Толькі гэта не абазначае, што я ўжо не вярнуся да вершаў для дзяцей.

*— Якую ролю адыгрывае паэзія ў Вашым жыцці?*

— Паэзія, гэта мой стымулятар жыцця. Люблю пісаць, люблю чытаць. Маімі ўлюбёнымі паэтамі з'яўляюцца Апалінэр, Хлебнікаў, Норвід, Бродскі.

*— Апрача паэзіі, ствараеце і сентэнцыі. Скажыце, лягчэй напісаць верш ці прыдумаць сентэнцыю?*

— Я не бачу тут ніякай розніцы. Верш і сентэнцыя з таго самога мора і вылоўліваецца іх той жа самай сеткай.

*— Апрача „Нівы", Вашыя творы можна яшчэ сустрэць на старонках кракаўскай „Lektury", беластоцкай „Gazety Tygodniowej", а нават варшаўскіх „Wiadomości PAKP"". Чыталіся яны таксама неаднойчы ў праграме беластоцкага Польскага радыё. А калі чытач можа спадзявацца Вашага зборніка?*

— Не ведаю, мо ў будучыні? Дзеля гэтага мусяць даспець умовы.

*— Шчыра Вам дзякую за размову.*

Гутарыў ПЁТР БАЙКО

# СВЯТКАВАННЕ 76-Х УГОДКАЎ АКТУ 25-ГА САКАВІКА Ў СІДНЕІ

Урачыстае Святкаванне 76-х Угодкаў гістарычнага Абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 г. пачалося сонечнай раніцай у нядзелю, 27 сакавіка, адмысловай божай службай у Праваслаўнай царкве Амерыканскай юрысдыкцыі ў Сіднейскім прыгарадзе Гомбуш. Царква была напоўнена беларусамі, прыехаўшымі ўшанаваць угодкі гэтай сапраўды ВЯЛІКАЙ ПАДЗЕІ ў жыцці беларускага народа.

Настаяцель царквы, беларус з Беласточчыны, айцец Ігар падгатаваў асобную і сэрцачулую малітву за Незалежнасць Рэспублікі Беларусь і за беларускі народ. Царкоўны хор, пад кіраўніцтвам спадара Падгайскага, вельмі прыгожа выканаў напісаную Наталляй Арсенневай малітву-песню „Магутны Божа"...

Падчас багаслужбы за Беларусь і беларускі народ, у царкве красаваўся бел-чырвона-белы сцяг, трыманы Міхасём Ціханам і Алесем Алехнікам.

Афіцыйная акадэмія адбылася ў Беларускім доме ў прыгарадзе Фэйрфілд. Адкрыў яе Міхась Лужынскі, пасля чаго быў адспяваны беларускі нацыянальны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

З вельмі цікавым дакладам-расказам выступіла Галя Базаленка, якая расказала прысутным пра тыя гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў Беларусі і асабліва ў Менску, якіх яна была сведкам і якія давялі да паўторнага Абвяшчэння Суверэнітэту Беларусі 27-га ліпеня 1990 г.

Міхась Лужынскі таксама паінфармаваў прысутных аб тых сакавіковых прывітаннях, якія прыслалі беларускія арганізацыі з Беларусі і іншых краін свету, а Янка Гавенчык зачытаў архіпастырскае пасланне першага іерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапаліта Мікалая. Па афіцыйнай частцы пачаўся супольны і вельмі смачны абед, падгатаваны Жаночым камітэтам у складзе: Ліза Бакуновіч, Валя Спасыва, Ванда Марчэнка і Марта Юхневіч. У сяброўскай атмасферы абед працягнуўся да позняга вечара, калі ўдзельнікі раз'ехаліся дамоў, напоўненыя прыемнымі ўражаннямі ад Угодкаў Незалежнасці далёкай ад Аўстраліі — але роднай усім беларусам — Маці-Беларусі!!!

АЛЕСЬ АЛЕХНІК

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка IV

Палова лета 1944 года прадвяшчала вялікае наступленне Чырвонай Арміі. І такі наступ распачаўся ў канцы чэрвеня, якраз на беларускім напрамку. Разгром нямецкіх армій у Беларусі быў поўны. Аб яго размерах найлепш сведчыць тое, што немцы ўцякалі хутчэй, чым наступалі ў 1941 годзе.

Зразумела, што ўсе, хто быў звязаны з тадышняй рэчаіснасцю супрацоўніцтвам з немцамі, стараліся ўцячы на захад. Сярод уцекачоў апынуўся таксама Уладзімір Клішэвіч. Уцякаючы, зрабіў несумненна добра. Калі б застаўся, напэўна ізноў наведаў бы надоўга, а можа і назаўсёды Калыму ці нейкі іншы рэгіён „архіпелага Гулаг".

Я асабіста не веру, што Уладзімір Клішэвіч належаў да шчырых энтузіястаў гітлераўскай сістэмы. Быў ён разумны, надта дасведчаны, каб не бачыць многіх аналогіяў паміж таталітарызмамі Сталіна і Гітлера. Аднак, апынуўшыся паміж накавальняй і молатам, выбраў меншае для яго зло — нямецкае.

У Германіі Уладзімір Клішэвіч быў вызвалены заходнімі альянтамі. Шукаў і знаходзіў кантакт з іншымі беларусамі. Разумеў, што пастаяннае жыхарства ў Германіі можа быць небяспечнае. У гэтым часе прадаўжалася халодная вайна і існавала рэальная пагроза савецкай экспансіі на заходнія краіны. І таму Уладзімір Клішэвіч пакарыстаўся першай нагодай і выехаў у ЗША, каб быць як найдалей ад Савецкага Саюза.

У Амерыцы, пасля першага вельмі цяжкага перыяду, павольна стабілізаваўся матэрыяльна і, здавалася б, пачаў жыць нармальным шчаслівым жыццём. Зусім магчыма, што для многіх тысяч людзей такая сітуацыя была б сінонімам удачы, дабрабыту і поўнага задавальнення. Так аднак не сталася з Уладзімірам Клішэвічам. Яго душа ставіла такую з'яву як Айчына вышэй, чым усе стабілізацыі і дабрабыты, якія прапанавала амерыканская рэчаіснасць.

Уладзімір Клішэвіч быў, бадай што, першым выдатным беларускім эміграцыйным паэтам, які два разы наведаў БССР. Увайшоў ён у кантакт з арганізацыяй „Радзіма" і з рэдакцыяй тыднёвіка „Голас Радзімы". Тэмпы адбудовы Беларусі з ваенных знішчэнняў зрабілі на паэта добрае ўражанне. Магчыма, верыў у магчымасць поўнага матэрыяльнага і духоўнага адраджэння Айчыны і таму пастанавіў пакінуць Амерыку і пераехаць на пастаяннае жыхарства ў БССР. Рэдакцыя „Голасу Радзімы" выдала яго паэтычны зборнік „Сняцца сны мне залатыя".

Мабыць, вестка аб тым, што Уладзімір Клішэвіч намервацца пераехаць у БССР шырока разышлася па ўсіх колах беларускай эміграцыі і ўсюды выклікала рэакцыю незадаволенасці і асуджэння. І хаця Уладзімір Клішэвіч у Беларусь не вярнуўся, то вестка аб яго вяртанні сталася настолькі інтэнсіўнай, што нават выдатны знаўца беларускага эміграцыйнага жыцця Амерыкі Вітаўт Кіпель у сваёй выдатнай кнізе „Беларусы ў ЗША" (Мінск 1993) піша, што Уладзімір Клішэвіч „вярнуўся потым на Беларусь" (стар. 301).

Так аднак не сталася. Уладзімір Клішэвіч не здолеў вярнуцца ў Беларусь. Чатырнаццатага лістапада 1978 года на шэсцьдзесят другім годзе свайго жыцця памёр ён у Амерыцы ў бліжэй нявысветленых акалічнасцях.

Варта адзначыць, што некаторыя з беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў і публіцыстаў рэзка атакавалі Уладзіміра Клішэвіча за яго намер вярнуцца ў БССР. Даказвалі яны паэту, што хоча пакінуць усю сваю маёмасць, увесь амерыканскі дабрабыт і ўсё гэта памяняць на савецкую галыцьбу. Трактавалі гэта як праяву здрадніцтва, як прадажніцтва, як адступленне ад свяшчэнных ідэалаў свабоды.

Удалося мне пачуць супрацьўныя выказванні двух беларусаў з Беларусі і з Амерыкі, якія прыпісвалі заўчасную смерць Уладзіміра Клішэвіча злачыннаму дзеянню „нямецкіх паслугачоў" і „агентаў КДБ". Цікава, што „нямецкіх паслугачоў" абвінавачваў амерыканскі беларус, а „агентаў КДБ" — савецкі.

Зразумела, што не намерваюся далучацца да каго-небудзь з гэтых абвінавачаньняў. Для гэтага трэба было б ведаць факты.

АЛЕСЬ БАРСКІ

 

# З МЕСЯЧНАГА КАЛЕНДАРА

**1.V. — Месяц у Казярогу.** Падуладны яму калені. Нельга лячыць зубы. Масуйце спіну, пазваночнік, галаву, суставы рук і ног. Можаце пачаць галадоўку (пры хваробе страўніка не галадаць). Рабіце маскі, прымайце ванны, настойкі падарожніка, чартапалоху, рапейніку, муміё. Устаньце перад світаннем, сустрэньце Сонца ўзняўшы рукі. Падкарміце скуру крэмамі.

Садзіце зяляніну, сейце траву, зімовы шпінат, сельдэрэй, парэй, цыбулю, караняплоды, кусты (цыбулю садзіць пры ўбываючым Месяцы).

**1—4.V. — Месяц у Вадалею.** Ад гэтага знака залежаць лыткі. Рухайцеся. Шпацыруйце, гуляйце з сабакамі (яны здымуць з вас стрэс, нервовую напругу, хваробу). Піце ваду з крыніц. Сустракайцеся з людзьмі.

Нічога не садзіць і не сеяць — можа нічога не ўзысці, расада згіне.

**4—6.V. Месяц у Рыбах.** Кіруе ступнямі. Звярніце ўвагу на стан вашае крыві. Асвяжыце скуру (карысныя ванны з валяр'янкай і рамонкам). Не давайце волю кепскаму настрою. Сустракайцеся з дзецьмі і сімпатычнымі людзьмі.

Добры ўплыў Месяца на пасадку шпінату, салаты, пятрушкі, радыскі, трускалак, але будзьце асцярожнымі — расліны пасаджаныя ў гэтыя дні хутка будуць псавацца.

**6—7.V. — Месяц у Баране.** Кіруе галавой. Добры ўплыў на валасы — стрыжка, новая прычоска. Масуйце скуру твару. Не лячыце зубоў.

Сеяць усё, што расце хутка і даецца да спажывання. Час добры для салаты, шпінату, кустовай фасолі і памідораў.

**Нядзеля, 1.V. — 21 месячны дзень.** Сімвал — Конь альбо Павозка. Добры для спартсменаў, падарожнікаў, палітыкаў, рэфарматараў. Удачныя падарожжы, але наземным транспартам. Можна займацца гандлем, прадпрымальніцтвам, нават рызыкоўным. Дзень радасці ў кампаніі. Дзіцё, народжанае сёння, будзе працавітым, умелым, цярплівым і ўдумлівым. Для зладзеяў і бандытаў дзень кепскі — іх зловяць і засудзяць. Сны звычайна не здзяйсняюцца.

**Панядзелак, 2.V. — 22 м. дзень.** Сімвал — Слон альбо Ключ (да раскрыцця таямніц). Надобры для пачынання чаго-небудзь. Добры для філасафаў, навукі, пошукаў праўды. Многія таямніцы становяцца яўнымі. Калі прысніцца кніга, ліст ці ключ, то стаіце на парозе сур'ёзных перамен. Дзіцё, народжанае сёння, дажыве да глыбокай старасці. Хваробы небяспечныя. Сны здзяйсняюцца. Можна варажыць. Можна звяртацца да псіхолагаў, юрыстаў, астролагаў.

**Аўторак, 3.V. — 23 м. дзень.** Сімвал — Кракадзіл. Дзень добры для завяршэння спраў, дрэнны для пачатку. У такі дзень здараецца шмат злачынстваў, хуліганства, сутычак. Не рабіце вялікіх жыццёвых ставак — можаце ўсё страціць. Не ешце мяса. Дзіцё не будзе прыгожым, усё жыццё будзе залежыць ад яго ведаў і дабрыні. Хваробы — доўгія, сны — фальшывыя.

**Серада, 4.V. — 24 м. дзень.** Сімвал — Мядзведзь. Дзень нейтральны, абыякавы. Усё ж лепш не пачынаць новага, а працягваць справы. Дзень звязаны з сексуальнай энергіяй, шмат каго будзе цягнуць на экстрэмальныя паводзіны. Не пакідайце дзяцей без догляду. Дзень звязаны з сям'ёй. Стойце на сваім. Хваробы небяспечныя.

**Чацвер, 5.V. — 25 м. дзень.** Сімвал — Чарапаха. Дзень добры для падарожжаў, гандлю, судовых спраў, адпачынку і сну. Цікавыя знаёмствы, радасць з сустрэч з сябрамі, сваякамі. Дзіцё будзе спрыяць лёс. Захварэўшаму пагражае смяртэльная небяспека без хуткай дапамогі.

**Пятніца, 6.V. — 26 м. дзень.** Сімвал — Рапуха. Кепскі дзень, нічога не плануйце, бо ўсё прынясе толькі страты. Добры для юрыстаў (добра пачаць абарону і апеляцыю), для падачы на развод. Хваробы — смяртэльна небяспечныя. Сны — здзяйсняюцца.

**Субота, 7.V. — 27 м. дзень.** Сімвал — Карабель альбо Трызуб. Добры для далёкіх падарожжаў, асабліва на вадзе, для кожнай працы, пасадкі і пасеву, для сустрэч з людзьмі старэйшага пакалення. Дзень калектыўных спраў, дапамогі людзям, адважных праектаў. Найбольш шалёныя задумы можна рэалізаваць у такі дзень. Дзень актыўнасці, споведзі і шчырасці. Дзіцё будзе бязвольнае, мяккае, уступлівае; бацькам трэба будзе ім займацца з наймалодшых гадоў. Хваробы — небяспечныя.

(М)

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4293. Віктар Бура (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4294. Мар'я Кішкель (Беласток) | — 200.000 зл. |
| 4295. Тамара Русачык (Бельск-Падляшскі) | — 100.000 зл. |
| 4296. Віктар Швед (Беласток) | — 150.000 зл. |
| 4297. Уладзімір Асіпюк (Чыжыкі) | — 120.000 зл. |
| 4298. Ян Казяк (Беласток) | — 180.000 зл. |
| 4299. Вольга Троц (Беласток) | — 180.000 зл. |
| 4300. Уладзімір Троц (Беласток) | — 180.000 зл. |
| 4301. Міраслаў Навіцкі (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4302. Ян Зенюк (Беласток) | — 200.000 зл. |
| 4303. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) | — 100.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

# ВІРАВАНКА З „Й"

1. польскі парламент, 2. ліпкае рэчыва, 3. раслінны тлушч, 4. 10 літраў малака ўдзень, 5. страшны цмок, 6. бялок з жаўтком у шкарлупіне, 7. зародак лічынкі насякомых, 8. не адзін у банку, 9. ускраіна, канечная частка, 10. зімой на дрэвах, 11. многа яго ў хляве, 12. пласт паміж іншымі такімі ж пластамі.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 11 н-ра**

**Гарызантальна:** какаду, камера, гарэза, раса, спод, фракцыянер, трон, Малі, Зверкі, каўнер, рамень.

**Вертыкальна:** камора, дуга, каза, развод, рэакцыянер, Сафрон, сперма, трэска, лівень, звер, Кіра.

Узнагароду за правільны адказ высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Спраўджаліся мне сны, якія ты разгадваў. Многа я табе пісала. А вось апошні сон, які мне прысніўся, цябе, Астроне, датычыць. А было так. Стаім мы побач і гаворым. Ты кажаш, што ў цябе справы сямейныя не надта, штосьці там жонка на рабоце клопаты мае... І канец тае размовы, а цябе я ўжо бачу воддаль, навокал бязмежная прастора — ні дрэў, ні будынкаў. Толькі пасярэдзіне гэту прастору дарога перасякае. Я гляджу на гэтую дарогу, а там ты імчышся белым самаходам. Самаход прыгожы, такога і не бывае. Сам разгадай свае справы.

І яшчэ ў тую ноч прысніўся мне другі сон. Я на рабоце. У адным пакойчыку сядзяць двое маіх супрацоўнікаў. Яны — браты. А ў пакоі поўна пасцелі — падушкі, коўдры. Усё гэта малодшага брата. Я гляджу на гэта і думаю: няма ў хлопца кватэры, дык і прынёс пасцель сюды. Няхай ляжыць.

**Вера**

Вера! Што датычыць першага сну, дык надта ты мяне пацешыла. Праўду кажучы, тая наша размова пра жончыны праблемы мала мяне непакоіць, бо і сакоча яна пра сваю працу, лічу, празмерна. А праца якая, Божа ж ты мой! Бялізну прасуе ў шпіталі, а нос вунь як высока носіць! Быццам бы дацэнтам якім была! Але ж крыху і рацыі мае. Кажа: дажыліся часоў, калі жонка мужыка карміць мусіць. Ну што ж, мне, старэнькаму Астрону, ужо не пасуе прафесію мяняць, а, зрэшты, што я ўмею апрача разгадвання сноў?!

Але ж вось добрую вестку ты мне прынесла. Бо тое, што імчаўся я ў бязмежнай прасторы нейкім цудоўным, белым самаходам, абазначала б нешта надта добрае, нейкі паварот спраў у лепшы бок, нейкую перамогу над цяжкім лёсам. Ну, дзякуй, даражэнькая, дзякуй.

Твой другі сон прадвяшчае нейкую хваробу таму малодшаму брату. Але чаму ён прынёс тую пасцель на работу? Можа там будуць нейкія непрыемнасці?

**АСТРОН**

## ГАНДЛЯР ГАРЭЛКАЙ

У адной вёсцы жыў перакупшчык. Таргаваў ён нелагальна алкаголем. Насіў свой тавар з крамы ў вялікай торбе.

Анойчы двух хлопцаў рашылі яго абакрасці. Калі стары вяртаўся з крамы, падышлі да яго.

— Вам, пэўна, цяжка, дзядуля? Я вам дапамагу, — запрапанаваў адзін, і не чакаючы адказу вырваў старому торбу з рук.

Пару хвілін ішлі побач, і раптам хлопец як не дасць драпака, што канём не дагоніш!

— Людзі, абакралі мяне! — закрычаў перакупшчык.

— Не перамайцеся, дзядзька, — супакоіў яго другі юнак.— Я зараз яго дагоню!

Людзі, што праходзілі міма, смяяліся і прыгаварвалі:

— Добра яму так, досыць нажыўся на чужой крыўдзе!

Хлопцы тыдзень пілі дармовую гарэлку і насміхаліся над старым гандляром.

А цяперака... І не трэба яго наведваць: гарэлкі ў краме хопіць на ўсю вёску, або і больш, і ў кожную гадзіну...

**АЎРОРА**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЦАРСКІЯ БЛІНЫ**

Прадукты:

*3 шклянкі грэцкай мукі,*
*2 няпоўныя шклянкі пшанічнай мукі,*
*5 дэкаў дражджэй,*
*5 яек,*
*10 дэкаў масла,*
*каля 1 літра малака,*
*1 лыжка солі,*
*1 лыжка цукру,*
*тлушч для смажання.*

Падрыхтаваць рошчыну з палавіны мукі, малака і ўсіх дражджэй, паставіць, каб падрасло. У рошчыну дадаць рэшту прадуктаў: муку, малако, растопленае масла, жаўткі, збітыя бялкі (павінна быць цвёрдая пена). Праз 15—20 мінут смажыць бліны. Падаваць іх з ікрой, смятанай, маслам.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


 

# ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

### ПРАМОВА ПІЛІПА ПЕСТРАКА Ў ГАРОДНІ

Пісьменнік-рэвалюцыянер, былы падпольшчык і вязень польскай дэфензівы, Пілін Пестрак прыехаў з групай пісьменнікаў на літаратурныя выступленні ў Гародню. Першая сустрэча адбылася са студэнтамі. Пілін Сымонавіч выйшаў да іх і сказаў:

— Дарагія таварышы гарадзенцы! Я вас вельмі люблю, бо я тут сядзеў у турме.

### А ДЗЕ ТУТ КНІГІ ПЕСТРАКА?"

„Амаль кожны прыезд у Гародню Пілін Пестрак бываў у Аляксея Карпюка. Зайшоўшы ў кватэру, Пілін Сымонавіч звычайна акуратненька вешаў капялюш у калідоры і праходзіў у рабочы пакой гаспадара. Як кожнага пісьменніка, найперш прыцягвалі яго ўвагу кніжныя паліцы. На гэты раз Пілін Сымонавіч са здзіўленнем заўважыў, што на паліцах яго чатырохтомніка, які нядаўна выйшаў, не было.

— Аляксей, хадзі сюды, — паклікаў з кухні гаспадара, — а дзе тут мой збор твораў?

— Ведаеце, Пілін Сымонавіч, я аддаў пачытаць суседу, — знайшоўся Аляксей Нічыпаравіч.

— А ты кажаш няпраўду, гіцаль! — Пілін Сымонавіч хуценька за свой капялюш і ходу за дзверы.

Больш сюды яго нага не ступала.

Неўзабаве Пілін Пестрак зноў прыехаў у Гародню. Пайшоў з таварышамі ў рэстаран павячэраць. Тут яму гавораць, што за вокнамі чакае яго Аляксей Карпюк, у рэстаран заходзіць не хоча, бо не п'е, пазбягае спакусы. Пілін Сымонавіч як адрэзаў:

— А гэты падкулачнік хай пачакае.

Пацэліў, як кажуць, у дзесятку: Аляксей Нічыпаравіч паходзіў з заможнай сям'і, а тады афіцыйна гэта не лічылася за годнасць.

Так Карпюк стаў класавым ворагам Піліпа Пестрака.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ („Полымя")**

# СЕНТЭНЦЫІ

Бяссілле — гэта сіла на прывязі.

* * *

Маўчанне — крык сціснутага рота.

* * *

Струна скрыпкі кранае да слёз, бо сплецена з суму.

**БАРЫС РУСКО**





Малюнак М. Сеўлюка

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

Прыходзіць мужчына да лекара, здымае нагавіцы:

— Пан доктар, гэта сіфіліс ці кароста?

— Гэта сіфіліс.

— Ну, праўда, адкуль у мяне кароста?

* * *

Прыходзіць мужчына да лекара:

— Пан доктар, я перамучаны, прашу мне нешта прыпісаць.

— Ніякіх лякарстваў, трэба класціся спаць разам з курамі!

Пасля некалькіх тыдняў пацыент яшчэ больш змораны прыходзіць да лекара:

— Пан доктар, вашыя рады нікудышныя. Куры, з якімі я спаў, увесь час сядалі на яйцах.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, у мяне артрыт...

— Ад малога?

— Ад кален.

* * *

Стары лекар, сляпы на адно вока, пытае пацыента:

— Як вы сябе адчуваеце?

— Як бачыце.

— Ой, браток, тады табе патрэбны не лекар, а далакоп.

* * *

— Ці вы п'еце гарэлку? — пытае лекар хворага.

— Кожны збярэжаны грош кладу на ашчадную кніжку.

— А як ужо назбіраецца вялікая сума, што з ёю робіце?

— Прапіваю.

* * *

Хворы ў бальніцы да медсястры:

— Якое нядобрае гэтае лякарства, проста агіда.

— Якое лякарства?! Гэта абед!

* * *

Баба выклікала хуткую дапамогу.

— Што вам баліць? — пытае лекар.

— Праўду кажучы, нічога мне не баліць. На рабоце дрэнна плацяць, таму задумала крыху паляжаць у ложку.

— Пасуньцеся, мне таксама слаба плацяць...

**Даслаў АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**




Даражэнькае Сэрцайка! Я хаджу як сама не свая. Праўда, я свайму мужу даўно ўжо не зусім верыла. Заўсёды былі ў яго нейкія знаёмыя, сябры, сяброўкі. З імі ён ахвотна праводзіў час, калі меў свабодную хвіліну, замест таго, каб сядзець у хаце, заняцца крыху домам і дзвюма чароўнымі дачушкамі (адной — чатырнаццаць гадоў, другой — восем).

Я працую ў школе, у мяне заняткаў хапае таксама і на рабоце, а ўсё, што дзеецца ў хаце — на маёй галаве. Муж лічыць, што ў яго вельмі важная прафесія, бо ён працуе ў паліцыі, можа таксама вяртацца дахаты калі хоча. Заўсёды тлумачыць, што быў заняты. А я пасля адных такіх „заняткаў" знайшла на каўняры яго кашулі губную памаду. Тлумачыў, што сяброўкі зрабілі гэта дзеля жарту, бо былі злосныя, што не хацеў з імі ісці пасля працы на нейкія „бюровыя" імяніны. Але алкаголем ад яго ўсё ж пахла, заўважыла я тады. Хацелася мужу верыць, дык я і не рабіла скандалаў. Праўда, яшчэ пару разоў я бачыла нейкія сляды на кашулі, якія нехта стараўся зацерці, але і так прабіваліся з іх памада. Урэшце плюнула я на ўсё гэта і падумала, што не варта сабе дурыць галаву яшчэ гэтымі справамі. Куды ён уцячэ? Ды і дзеці ніколі не былі яму абыякавыя, хаця мог бы прысвячаць ім больш увагі.

Даражэнькае Сэрцайка! З часам чалавек да ўсяго прывыкне. І можа мужавы „скокі на бокі" нават пачне лічыць нармальным элементам сямейнага жыцця. Няхай сабе паскача, калі яму гэтага не хапае. Дома, вядома, скачаш — але больш з абавязку, як дзеля прыемнасці. А там — раздолле... А, зрэшты... Не бачыла ж я нічога, дык і не магу мець упэўненасці, што ходзіць па бабах!

Калі ў дзяцей былі зімовыя канікулы, надарылася і мне аказія выехаць са сваімі дачушкамі на два тыдні ў горы. Я — працавала, яны — адпачывалі. Вельмі цешыла мяне гэта. Я не разлічвала асабліва, што мой муж будзе належна апекавацца домам, дык пакінула свае ключы ў бацькоў, каб заглядалі да нас і рэгулярна палівалі кветкі.

Выязджала я спакойная, а калі вярнулася, — дык лепш не гаварыць. Нібы ў хаце было ўсё ў парадку. Нічога не прадчуваючы, я бухнула на мяккае крэсла, каб адпачыць і тут у мяне пацямнела ў вачах: з ваўнянай накідкі з фрэнзлямі я выцягнула даўжэзны волас з модным рыжаватым адценнем. Ні ў кога з нас такіх не было. Ну, можа, у мужавай пляменніцы былі падобныя, але ж была яна яшчэ перад нашым ад'ездам, а без нас нікога, казаў муж, не было. Я дэманстрацыйна выцягнула волас на ўсю яго даўжыню і пытаю, чый гэта, бо ж волас яго пляменніцы столькі б не сядзеў у гэтай накідцы. А муж ды і кажа спакойна: „Дай ужо гэты волас, дык пайду і выкіну!" Праўда, не перапужаўся, не змяніўся ў твары, але ж волас забраў. Мо баяўся, каб я не параўнала яго з воласам пляменніцы? Я не магу сабе цяпер знайсці спакою, усё думаю пра той волас. Навошта я яму яго аддала? Ужо ж бы можа быў і канкрэтны доказ, што нехта ў яго тут начаваў. Што рабіць, Сэрцайка?

**Кацярына**

Кацярына! Што рабіць? А нічога! То ж гэта не першы раз, што ты здагадваешся, а канкрэтнага доказу не маеш. Калі б ты яго злавіла ў ложку з бабай — была б іншая справа. А так усё застаецца ў сферы здагадак. Ну, і што, калі гэта не волас пляменніцы? А мо ў яго была нейкая кампанія?! Ты ж яго на крэсле знайшла! Зрэшты, ты сама кажаш, што муж ані крышку не перапужаўся. А мо гэта і быў волас пляменніцы — твой муж, як я зразумела, не надта любіць займацца ўборкай хаты, а дзяўчына ж была перад вашым ад'ездам.

А, зрэшты, ці не баяўся б, што могуць нечакана з'явіцца твае бацькі? Ты ж ім, бадай, тыя ключы нездарма пакінула?! (А пішаш, што дзеля таго, каб кветкі палівалі...).

А ну яго к чорту з тым дурным воласам. Перастань пра яго думаць. У цябе ж дзеці. Каб так на кожную дробязь звярталі ўвагу, дык мала сем'яў засталося б.

**СЭРЦАЙКА**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ПРЫВІДЫ ХАТНІХ ЖЫВЁЛ

### Афганскі Пацук

Гісторыя пра прывід сабакі мытніка, пададзеная ў папярэднім нумары, можна сказаць нават — прасветленая, а вось гэтая, пра Афганскага Пацука, бадай што самая крыважэрная з усіх зафіксаваных выпадкаў сутыкнення чалавека з прывідамі хатніх жывёл. Здарылася яна ў Кобрыне ў 1987 годзе. А потым падобныя здарэнні пракаціліся эпідэміяй па ўсёй Беларусі.

Грамадзянка Кобрына Н. выправіла свайго сына служыць у, тады яшчэ савецкае, войска. А той трапіў на вайну ў Афганістан. У якасці падарунка сын прывёз маці з-за мяжы забранага ў аднаго з кішлакоў сабаку. Тамтэйшыя сяляне пераканалі хлопца, што гэта мясцовая парода балонак. Сабака быў маленькі, бухматы, але з дзіўнаю, доўгазавострацаю пысаю. Грамадзянка Н. пасяліла сабачку ў сваім пакоі. Жанчыну адразу ж насцярожыла тое, што ён нічога не еў, толькі піў, да таго ж не хлябтаў, а менавіта ўсмоктваў вадкасць сваёю доўгаю пысаю.

Напачатку грамадзянка Н. не заўважыла нічога кепскага. Хіба што сабака не брахаў. Але ўжо праз тыдзень адчула млявасць. З кожным наступным днём ёй рабілася ўсё горш і горш. А вось сабачка наадварот — штодня тлусцеў, хаця нічога не еў. Паводзіць ён сябе стаў таксама дзіўна: удзень спаў, зашыўшыся ў цёмнае месца, а пад вечар ажываў. Нарэшце жанчына настолькі саслабела, што яе давялося пакласці ў бальніцу. А праз тыдзень яна памерла. Дактары паставілі дыягназ — малакроўе і спісалі смерць на наступствы чарнобыльскае катастрофы. Сын забраў сабачку да сябе, а праз месяц сканала ягоная жонка і з тым жа самым дыягназам. Удавец у ноч пасля пахавання не мог заснуць; пачуўшы плач малога сына, ён зазірнуў у дзіцячы пакой і ўбачыў, што афганская істота шчэміцца пад коўдру да малога. Ветэран спачатку падумаў, што сабачка проста хоча прылашчыцца, але неўзабаве заўважыў, што цэлая пыса жывёлы перапэцкана крывёю.

З раніцы зляканы маладзён панёс свой вайсковы трафей да ветэрынара, але той доўга не мог даць рады, бо падобнай жывёлы ніколі не сустракалі на тутэйшых абшарах. Параіўшыся, мужчыны палічылі за лепшае ўсыпіць сабачку. Пачалі з хлараформу, але дзіўная істота прасядзеўшы, мо, з гадзіну ў шкляным слоіку па лытькі ў сонным, так і не сканала. Тады раз'юшаны ветэрынар, схапіўшы вялікія нажніцы для кастрацыі, перарэзаў азіяцкую поскудзь напалам, і ледзь не самлеў — пачвара ўяўляла сабою адну толькі скуру, у сярэдзіне якой целяпалася густая і яшчэ цёплая чалавечая кроў.

Следчыя вайсковае пракуратуры, якія зацікавіліся гэтай справай, высветлілі наступнае:

У некаторых, непраходных для цяжкой савецкай тэхнікі, раёнах Афганістана з паганскіх часоў і дагэтуль захаваўся культ сабак. Азіяцкія ведзьмакі могуць адасабляць і кансерваваць душы з'едзеных у культавых мэтах сабак. Па патрэбе гэтыя душы ўдзімаюцца ў злупленыя сабачыя скуры — так з'яўляецца на свет жахлівы крывасмок. Суседнім народам здаўна вядомы хітрыкі падступных ведзьмакоў; гэтыя монстры на мусульманскім Усходзе маюць назву Афганскі Пацук.

Гэтая гісторыя яшчэ раз даводзіць слушнасць усім вядомых вайскова-палітычных дактрын, паводле якіх Беларусь мусіць захоўваць нейтральны статус і не ўдзельнічаць у каланіяльных войнах.

*(працяг будзе)*

**Падрыхтавалі ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**